

27 лістапада 1920 г. — Памятаем!


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Мастакі ў Нараўцы→4


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 48 (3159) Год LXI Беласток, 27 лістапада 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Шматкультурнасць, мульты-культы — тэмы вельмі модныя, паўсюдныя. Зручна іх ведаць. Кожны вялікі горад ператвараецца ў культурны тыгель, у якім мы падзяляем гарадскую прастору з замежнікамі, ядзім у экзатычных барах і прымаем кожны семестр прагных адметнасці «эрасмусаў». Акружаемся людзьмі, часта вельмі далёкіх ад нас у культурным плане, нават калі мігруем толькі ў межах Польшчы. Беларусы з Сакольшчыны, хаця прадвызначаныя сваёй культурай, на Памор'і змаглі знайсці з мясцовымі кашубамі супольны шлях для дасягнення агульнай мэты. Яны ўмелі выкарыстаць гэтыя адрозненні ў час, калі паняцце шматкультурнасці ці мульты-культы былі не толькі нямоднымі, але і нежаданымі.

# Беларускасць зніталася з кашубскасцю


■ Станіслаў Клімовіч са шматгадовай сяброўкай і зямлячкай прафесар Ленай Глагоўскай


■ Ірэна Саецкая і Міраслаў Куклік

### «БОСЫ АНТЭК»

За працай, за навукай ці за любоўю пакінулі родныя сакольскія вёскі, каб здзейсніць свае і бацькоўскія мары аб лепшым жыцці. Эміграцыя, у гэтым выпадку ў межах Польшчы, не садзейнічала гэтаму, каб высесніць сваю тоеснасць ці адчуваць за гэта сорам. Станіслаў Клімовіч родам з Яцаўлянаў, што на Сакольшчыне, прыехаў на Кашубы настаўнікам геаграфіі. Педагагічны талент і харызма хутка паспрыялі новым выклікам, якія паспяхова здзяйсняў. Сёння з'яўляецца не толькі старшынёю Лакальнай рыбацкай групы ў Хмельне, але адначасова ўзначальвае пасаду раднага Картузскага павета.

— Пасля завяршэння вышэйшай школы я застаўся тут. Не вярнуўся скуль прыйшоў — пад Саколку. Нас з Падляшша засталося вельмі многа, па сёння трымаем кантакт. Месцам на далейшае жыццё я выбраў Хмельна, — гаворыць Станіслаў Клімовіч. — Па-за школай маю шмат іншых абавязкаў. Я экскурсавод, лакальны дзеяч, таксама ад двух гадоў радны Картузскага павета, старшыня камісіі адукацыі. Захапляюся кашубскай прыродай, арганізую шмат экскурсій. Як настаўнік прыроды і геаграфіі стараюся адкрываць перад дзецьмі і турыстамі багацце гэтай зямлі.

Станіслаў Клімовіч парадніўся з Кашубамі. Са сваёй жонкай, радавітай кашубкай, мае тры дачкі: Дамроку, Славіну і Агату. Хаця Дамрока, гэта тыповае кашубскае імя, у гміне былі складанасці, каб менавіта так яе запісаць. З дапамогай прыйшла працаўніца гміны, ураджэнка Гайнаўкі.

— З сентыментам вяртаюся ў мае родныя старонкі. Швагер займаецца агратурызмам, часам яму дапамагаю, заўсёды, калі бачу падляшскія нумары, спыняю людзей, каб распытацца, што чуваць, або прабую паразмаўляць з імі па-простаму, — прызнаецца Станіслаў Клімовіч.

Хмельна гэта вялікая турыстычна-адпачынковая вёска, куды штогод прыязджае натоўп турыстаў. Клімовіч шмат энергіі ўклаў у развіццё гэтай галіны гаспадаркі ў сваёй гміне. Не толькі з'яўляецца аўтарам даведніка па сваёй ваколіцы, але таксама суарганізатарам такіх мерапрыемстваў як "Веселле ў Хмельне", дзе прыгадвалі шлюб вядомага польскага акцёра Збігнева Цыбульскага з Альжбетай Хвалібог. Сам Станіслаў Клімовіч менавіта ў гэтым дагледзеўся шанцу на прывабнасць і развіццё кашубшчыны, якой сітуацыя свайго часу была паралельная з беларускай.

— Калі сёння хтосьці пытаецца мяне, што паўплывала на адраджэнне кашубскай мовы, дзе яна была выцясняная з публічнай прасторы, вучняў каралі за карыстанне ёю ў школе, адказваю — турызм, — тлумачыць Станіслаў Клімовіч. — Я глыбока сяджу ў гэтай тэме, з'яўляюся ініцыятарам шэрагу праектаў, мерапрыемстваў. Мы, лакальныя дзеячы, свайго часу задумваліся, што можам даць людзям, якія сюды прыязджаюць. І вырашылі — кашубскасць.

Больш за трыццаць гадоў працы на кашубскай ніве Станіслава Клімовіча выклікала таксама грамадскі давер, аб чым сведчыць пасада павятовага раднага. Калі б давяраць стэрэатыпам, кашуб гэта асцярожная асоба, якая "сваім" лічыць толькі кашуба. А заслужыць такое званне чалавеку з Усходу, вельмі складана.

— Ой, пра гэта маю прыкрыя ўспаміны, — прызнаецца Станіслаў Клімовіч. — Амаль дзесяць гадоў трэба было мне намагацца, каб лічылі мяне роўным. Трэба было заслужыць. Само ў мінулым годзе я асмеліўся апрануцца ў кашубскі строй, ідучы на пастэрку, па 35-ці гадах. Прапанавалі мне розныя прэстыжныя працоўныя месцы: будзь дырэктарам, будзь войтам... але я не хацеў гэтага. Усё добра, калі добра. Аднак пры якой-небудзь няўдачы сказалі б зноў: — Ну так, «босы Антэк».

### ДЗЕЙНІЧАЦЬ ДЛЯ КАШУБАЎ, СПАЧЫЦЬ У КРЫНКАХ

З Астровя, што пад Крынкамі, паехаў у Гданьск на геалогію, пазней у Карпаты за працай у якасці настаўніка. Міраслаў Куклік, будучы на другім курсе, вымушаны быў прыпыніць навуку па прычыне ваеннага становішча і звязаных з ім рэпрэсій. Супольна з сябрам з'ехалі на поўдзень Польшчы ў Судэты. План быў просты: жыць са збірання і продажу камення. Аднак па галодным годзе сышлі з гор у даліну вучыць дзяцей у вясковай школе. Багацце акружаючай прыроды нават выклікалі думкі, каб тут асесці, аднак за жонкай (на той час адзіная мамалог у Польшчы) з'ехаў на Памор'е. Дзякуючы ёй пачаў работу на пасадзе дырэктара Музея рыбалоўства ў Гелю.

— І месца, і праца вельмі мяне «ўцягнулі», — кажа Міраслаў Куклік. — Сёння я спецыяліст па кашубскім рыбалоўстве. Усю інфармацыю я здабыў у даўнейшых рыбакоў, якія ўжо не жывуць. Яны мелі толькі нескладаныя катэры і вёслы. Тады яны чакалі рыбу, але ведалі калі, у якую пару... І арганізуем у Ястарні такую традыцыйную лоўлю. Наогул шмат ладзім такога тыпу мерапрыемстваў, якія нагадваюць даўнейшую рыбалку.

Сёння Міраслаў Куклік з'яўляецца дырэктарам Музея Пуцкай з'ямлі, які мае свае філіі ў цэлым раёне. Славуты скансэн у Надолі (вёсачцы ў раёне Вейгерова, якая ў часы ІІ Рэчы Паспалітай апынулася ў межах Польшчы, калі ўся цэлая акружаючая тэрыторыя была пад Нямеччынай) гэта комплекс некалькіх будынкаў, якія адзіныя засталіся аўтэнтычнымі будынкамі пры ўсіх індустрыяльных, пабудаваных на патрэбы рабочых найбольшай воднай электрастанцыі, пабудаванай тут у 1970-х гадах.

— Цэлы час мне здаецца, што шмат чаго яшчэ мог бы я зрабіць, — кажа Міраслаў Куклік. — Я сюды прыехаў як чалавек звонку. Мы так маем: калі кудысьці прыходзім, як неафіты, мы надта афіцыёзныя. Магчыма пра гэта ідзе, каб «запэўніць прабел» у месцы, у якое мы трапілі.

Міраслаў Куклік узначальвае Таварыства «Сябры Гэлю». Таксама з'яўляецца

працяг☞10

❖Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ





# Актыўнасць
## на Месяцы і Зямлі

На мінулым тыдні месяц свяціў намнога ярчэй, чым звычайна, а астраномы раілі назіраць асаблівы бляск гэтага свяціла. Зоркі, як вядома, вельмі моцна ўплываюць на наш лёс, а астролагі ўвязваюць актыўнасць Месяца, як спадарожніка Зямлі з актыўнасцю ў грамадстве на нашай планеце. Апошнім часам найбольш актыўнымі былі карэйцы. Прычым не тыя, якім і дыхнуць нельга пад татальнай ідэалогіяй чучхэ. Паўночныя карэйцы на сёння — гэта самая няшчасная нацыя на гэтым свеце. Выбрацца з той безнадзейнай прорвы, у якой апынулася гэтая частка Карэі, найперш „дзякуючы” Савецкаму Саюзу, няма шанцаў хіба яшчэ некальком пакаленням. А пратэстуюць якраз паўднёвыя карэйцы, у якіх дэмакратыя і дабрабыт, у якіх амаль усё добра. Але няма нічога добрага, каб не захацелася зрабіць яшчэ лепш. Паўднёвыя карэйцы пратэстуюць супраць карупцыі, а можа нават не карупцыі, а толькі гэткага кумаўства ў вышэйшым эшалоне ўлады. І калі на вуліцы сталіцы на мірны пратэст выходзіць за дзень амаль мільён чалавек — то справа гэтай цяперашняй прэзідэнтшы дрэнь, не мінуць, па ўсім відаць, ёй адстаўкі, нягледзячы на ўсе папярэднія заслугі і народную абранасць.

У Каталоніі свае пратэсты. У яе сталіцы Барселоне на вуліцы выйшла каля 70-90 тысяч дэманстрантаў. Прычына — юрыдычны і іншы пераслед іспанскімі цэнтральнымі ўладамі каталонскіх палітыкаў. Працэс здабывання незалежнасці ў каталонцаў — доўгі, у нечым супярэчлівы і хваравіты. Але трэба меркаваць, што падавіць Мадрыду гэтае памкненне не ўдасца і абвяшчэнне і прызнанне незалежнасці Каталоніі — пытанне не бліжэйшых дзесяцігоддзяў, а гадоў.

У ЗША яшчэ працягваліся пратэсты супраць абрання прэзідэнтам Дональда Трампа. Тыя, хто вінавацілі рэспубліканца ва ўсіх смяротных і жыццёвых грахах, самі сталі няздольнымі прызнаць параз сваёй кандыдаткі.

У Беларусі самым яркім пратэстам мінулага тыдня стаў захоп трыма ці чатырма сталымі жанчынамі сталічнага трамвая. Вінаватыя былі менавіта трамвайшчыкі, якія не папярэдзілі людзей, што транспарт не пойдзе ў азначаным кірунку, а людзі аплацілі свой праезд. На дзіва, нават міліцыянты не зрэагавалі на такую акцыю радыкальных кабетак і транспартнікі мусілі даставіць людзей туды, куды належала. Усе іншыя праявы змагання за свае правы ў нібыта „новаліберальнай Беларусі”, у якую так хочуць верыць заходнія партнёры рэжыму, душацца бязлітасна і пасядоўна. Кожнае вольнае слова, кожны плакацік, кожны ўзняты бел-чырвона-белы сцяг, нават кожная запаленая свечка, маюць свой улік у кагэбэшнікаў і міліцыянтаў. Ну а карныя суды акуратна выпісваюць грамадзянскім актывістам вялізныя штрафы. Тактыка пераследу ва ўлад цяпер такая — не затрымліваць і засуджваць адміністрацыйнымі арыштамі, а папаўняць дзіравую казну дзяржаўнай машыны, душачы грамадскі рух штрафамі.

У суседняй Украіне зараз зноў неспакойна. Украінскую вярхоўную ўладу палохаюць новым майданам. І гэта зразумела — столькі ахвяр, столькі жыццяў аддадзена за вольнасць і развіццё краіны, а гідра карупцыі надалей жывучая. Як казаў герой папулярнага твора — „адна галава ўпала, а тры вырасла”. Крэдыт даверу да прэзідэнта Парашэнкі растае імкліва як лістападаўскі снег, а Украіна ўсё больш нагадвае гістарычную Запарожскую Сеч, дзе ўсё пераплецена — гэткая сумесь вольніцы і анархіі, свабоды і бездказнасці, салідарнасці грамадзян і кумаўства палітычных кланаў, якіяператасаваліся ў крэслах. Гэтыя кланы, праўдападобна, пільнуюць толькі сваіх эканамічных інтарэсаў і мала дбаюць пра лёс краіны. Палітычнае ж выспяванне ўкраінскіх элітаў значна адстае ад нацыянальнага. Гэта пацвердзіла і наіўная рэакцыя многіх украінскіх палітыкаў на спробу дзяржаўных прадстаўнікоў Беларусі сарваць галасаванне ў ААН па пытанні правоў чалавека ў акупаваным Крыме. Некаторыя нават назвалі гэта „ударам у плечы”. Такія знешнепалітычныя ілюзіі ў дачыненні да паўночнага суседа толькі пацвярджаюць няспеласць украінскай дыпламатычнай і абарончай дактрыны. Ну а калі прыйдзе новы пік грамадскай актыўнасці ва Украіне — трэба пытацца не ў сацыёлагаў, а ў зорак.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Трапятанне
## дэманаў



Як маецца перадаваная кляшчамі хвароба Лайма да багацця жалудоў? І як апошнія прэзідэнцкія выбары ў ЗША да беспрэцэдэнтнай эскалацыі ў гэтай краіне злачынстваў на глебе нянавісці? І, нарэшце, як маецца цытаванае мною ўпарта трапятанне крыламі спалоханага ў джунглях Амазонкі матыля да нядаўніх землятрусаў у Італіі? Маецца, прытым шмат у чым. Хоць апошні прыклад не паддаецца ніякай логіцы, усё ж нельга выключыць з абсалютнай упэўненасцю прычынна-следчую сувязь паміж гэтымі падзеямі. Ну і што, калі яны знаходзяцца на абсурднай адлегласці адзін ад аднаго? Магчыма, у нас няма толькі адпаведных даследчых інструментаў, каб даказаць, што адбываюцца паміж імі карэляцыі. Гэта нічым не адрозніваецца ад тае, якая існуе паміж жалудамі і хваробай Лайма. Толькі прымяненне адпаведнай эмпірычнай метадалогіі можа дазволіць ахапіць узаемасувязь паміж высокім плёнам жалудоў і ростам насельніцтва нажываючыхся на іх мышэй, на якіх, у сваю чаргу, на самой справе кормяцца кляшчы. Аказваецца, што ў гэтым канкрэтным ланцугу падзей няма ані апошніх, ані першасных або другасных звёнаў. Усе яны аднолькава важныя для бесперапыннасці — і жолуд... і чалавек. Сапраўды гэтак жа, як і ў прычынна-следчых ланцужках слоў і ўчынкаў, мовы і правапарушэнняў, дзе дрэнныя словы з'яўляюцца адпаведнікамі злых пачынаў, а мова нянавісці — злачынстваў на глебе нянавісці. Так і ў Злучаных Штатах падчас прэзідэнцкіх перадвыбарных дэбатаў, як і ў Польшчы, дзе ў мінулым годзе выйграла парламенцкія выбары ПіС, мова варагавання дасягнула свайго піку і назіраецца павелічэнне агрэсіі не толькі ў палітыцы, але і на праславутай вуліцы. На жаль, не свабодныя ад гэтага нядзельныя пропаведзі. Фактычна, што не ў кожнай парафіі, але шмат (наколькі мала, ці зашмат), прытым дастаткова, каб выклікаць дрэмлючых дэманаў. Дэманаў выклікаецца не без наступстваў. Нават калі гэта робіцца ў імя слушнай, па сваім перакананні, рацыі. Чалавечыя рацыі, на жаль, з'яўляюцца заўсёды найбольш слушнымі. Гісторыя (заўсёды несвоечасова) старанна запісвае іх апакаліптычныя фіналізацыі — нацыяналізм, расізм, фашызм, бальшавізм... у выніку іх — мільёны ахвяр, акіян людскіх пакут. І з ідучымі за імі незлічонымі арміямі дэманаў, якія хаваюцца за заслонай спакутаванай памяці ахвяр, у крыптаслоўніку нявыказаных або невымоўных слоў, у пачынах яшчэ не зробленых, але ўжо даўно запісаных пад лозунгам найвялікшай рацыі.

Нью-Йорк у цяперашні час залівае хваля злачынстваў на глебе нянавісці. Уплыў на іх рост мелі прэзідэнцкія выбары і іх вынік. Акрамя расісцкіх нападаў і нападаў на супольнасць ЛГБТ на сценах дамоў заквітаюць у незвычайным багацці свастыкі, якія суправаджаюцца абразлівымі заўвагамі. Даходзіць таксама на гэтым фоне да пабояў і забойстваў. Тым не менш, гэта праблема не столькі ў Нью-Ёрку, як і па ўсёй краіне, і, магчыма, з'яўляецца наступствам мовы нянавісці, якую пасеяў у грамадскія дэбаты Дональд Трамп. Прыйдзецца яму, як прэзідэнту, супрацьстаяць амерыканскім дэманам, якіх разбудзіў з летаргічнага сну.

Неўтаймаваныя таксама польскія дэманы. У сервізе «wPolityce» нядаўна з'явіўся фельетон дэпутаткі ад ПіС, Беаты Матэусяк-Пялюхі, без сумневу, перакананай у слушнасці сваёй рацыі дэклараванай каталічкі.Чытаем там сапраўды д'ябальскае паведамленне, якое я цытую з партала «oko.press»: «(...) мы павінны патрабаваць ад атэістаў, праваслаўных ці мусульман заяў, дзе яны скажуць, што ведаюць і бяруць на сябе абавязацельства цалкам выконваць польскую канстытуцыю і каштоўнасці, прызнаныя ў Польшчы як важныя. Невыкананне гэтых патрабаванняў павінна быць відавочнай падставай для дэпартацыі». Здавалася б, несур'ёзная заява, таму не заслугоўвае яна ўвагі, толькі што яна нагадвае пырханне крылаў, прачнуўшайся з летаргічнага сну... мясной мухі. На шчасце, як адзначаюць рэдактары партала «oko.press», ідэі Матэусяк-Пялюхі цалкам супярэчаць Канстытуцыі, якая ў сіле ў цяперашні час. Польскага грамадзяніна нельга выгнаць з краіны (арт. 52), а ўлада не можа патрабаваць ад грамадзяніна раскрыць яго светапогляд і веравызнанне (арт. 53)! Нагадаю, аднак, што кіруючая партыя Права і Справядлівасць у цяперашні час старанна працуе над пераглядам гэтай Канстытуцыі. Да чаго прывядзе гэтае немагчымае да ўяўлення трапятанне... крылатых дэманаў?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# І не да танца, і не да ружанца

Некалькі месяцаў таму назад пісаў я ў гэтай рубрыцы пра выразны рост негатыўных эмоцый у польска-ўкраінскіх дачыненнях. Іх заложнікамі, як гэта звычайна бывае ў такіх сітуацыях, сталі нацыянальныя меншасці, якім за ўсё прыходзіцца расплачвацца. Сітуацыя стала яшчэ больш загушчанай і нават крыху смярдзючай пасля ўваходу ў пракат доўгачаканай кінакарціны Войцеха Смажоўскага «Валынь». Гадамі накопленыя і замоўчваныя польскія эмоцыі ўспыхнулі з неўяўляльнай сілай. Пра фільм дыскутавалі і выказвалі свае меркаванні ўсе — ад палітыкаў, публіцыстаў, гісторыкаў па святароў. Зразумела, што ў такой сітуацыі казламі адпушчэння і жаданымі ўдзельнікамі дыскусіі сталі польскія ўкраінцы. То на іх плечы і галовы зваліўся першы і магутны ўдар усялякай, некантраляванай часам хвалі гневу. На міждзяржаўным узроўні справа выглядае больш стрыманай, што вынікае з супольных інтарэсаў і пагрозы перад крамлёўскай палітыкай. Таму нават прэм'ерны паказ фільма, у выніку рэзкага становішча ўкраінскай палітыкаў, былў у Кіеве польскім пасольствам адтэрмінаваны. Але зусім па-іншаму справа выглядае ў Польшчы. Дайшло ўжо нават да таго, што старшыня Саюза ўкраінцаў у Польшчы Пятро Тыма падаў у пракуратуру заяву з абвінавачаннем вядомага і неадназначнага падарожніка Войцеха Цэйроўскага ў выказваннях, у якіх «зневажаў украінцаў і заклікаў да расавай нянавісці». У адной з кастрычніцкіх перадач на Радыё Кашалін Цэйроўскі, каментуючы фільм, заявіў наступнае: *Ukraińcy to gwałciciele i rzeźnicy. (...) Jeżeli mój brat jest gwałcicielem i rzeźnikiem, a ja przez dziesiątki lat, po tym, jak dokonano rzezi wołyńskiej, twierdzę cały czas, że on jest bohaterem, to mnie czyni rzeźnikiem i gwałcicielem. Bo znaczy to, że mnie nie to przeszkadza, że on był rzeźnikiem i gwałcicielem. Liczy się dla mnie tylko to, w jakiej sprawie gwałcił i rozrzynał ludzi. No więc na Pańskie pytanie „czy wszyscy Ukraińcy?” stwierdzam, że wszyscy.*

Дапоўніў таксама:*”Żaden Ukrainiec do tej pory nie uporządkował tej sprawy. Nikt tam nie wystąpił ze znacznych Ukraińców mówiąc: Ci nasi bohaterowie to nie są bohaterowie. Tak, walczyli o niepodległą Ukrainę, ale takimi metodami się nie załatwia spraw. Bo nie można dobra uzyskać czyniąc makabryczne zło.*

У паведамленні ў пракуратуру Пятро Тыма пра выказванні Цэйроўскага напісаў, між іншым: *„Obelżywe, urągające, uwłaczające godności człowieka, wyrażają pogardę wobec Ukraińców, poniżają ich w oczach opinii publicznej, a w konsekwencji znieważają osoby narodowości ukraińskiej z powodu ich przynależności narodowej”.*

Як да справы падыдзе пракуратура і ці справа знойдзе месца ў судзе — пажывем, пабачым.

Не мінуў месяц, калі напрыканцы мінулага тыдня нікому невядомая дэпутатка польскага Сейма ад Права і Справядлівасці Беата Матэусяк-Пялюха таксама вырашыла абвясціць гораду і свету свае ўражанні ад пабачанай кінастужкі «Валынь». І ейная, нястрымная аўтарская творчасць выклікала чарговы агульнапольскі скандал. Вось яе некаторыя рэфлексіі ад пабачанай кінастужкі: *Jak dotąd nie czytałam i nie słyszałam w polskich mediach pytania: kim są ci ludzie z Ukrainy, których w Polsce pracuje już ponad milion? Potomkami morderców? A jeśli tak, to czy uważają ludobójstwo, jakiego dopuścili się ich krewni na Polakach, za zło, które ich dzisiaj boli? A może są tymi, którzy za zarobione u nas pieniądze fundują na Ukrainie pomniki Bandery? Oczywiście, uznaję za obowiązek katolika pomaganie potrzebującemu, muzułmaninowi czy prawosławnemu. Równocześnie jednak, jeżeli chcą mieszkać w Polsce i pracować obok mnie, mam prawo spytać ich o poglądy, przekonania i nastawienie do wartości, które w Polsce uznajemy za ważne. Mam prawo oczekiwać od rządu i rządzącej partii polityki otwartych oczu i rozwiązywania rzeczywistych problemów. Wolni w swoim myśleniu i działaniu powinniśmy żądać od mieszkających i pracujących w Polsce cudzoziemców legalizowania pobytu i stworzyć skuteczniejszy mechanizm bezwzględnego egzekwowania tego obowiązku przez państwowe służby. Ale także, powinniśmy wymagać od ateistów, prawosławnych czy muzułmanów oświadczeń, że znają i zobowiązują się w pełni respektować polską Konstytucję i wartości uznawane w Polsce za ważne. Niespełnianie tych wymogów powinno być jednoznacznym powodem do deportacji.*

І я зразумеў, што маім, лаяльнага праваслаўнага беларуса, абавязкам з'яўляецца так па-хрысціянску публічна вымавіць словы малітвы «Божа прабач нам, калі ласка».

**Яўген ВАПА**

# Андрэй Янюк
## і яго выстава «Натура-льна, аб'ектыў-на»

**Фотарэпарцёр Андрэй Янюк супрацоўнічае з газетамі і многа часу прысвячае фатаграфаванню перш за ўсё вельмі блізкай яму Белавежскай пушчы. Рэзультатам яго захаплення стала выстава незвычайных фатаграфій пушчы — птушак, дзікай звярыны і незвычайнага лесу, адкрыццё якой адбылося 8 лістапада ў галерэі Гайнаўскага дома культуры.**



Намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка (злева), дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і Андрэй Янюк

Выставу «Натура-льна, аб'ектыў-на» адкрылі сам яе аўтар Андрэй Янюк, загадчыца мастацкай часткі ГДК Ядвіга Кучкін, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка. Андрэй Янюк нарадзіўся ў 1972 годзе і ўвесь час жыве ў Гайнаўцы. У дзяцінстве наведваў ён бабулю і дзядулю ў Скупаве на ўскраіне Белавежскай пушчы, якая запаланіла юнака.

— Мая мама родам з Васькоў Нараўскай гміны, але я, будучы хлапчуком, часцей выязджаў на хутар Скупава Нараўчанскай гміны да дзядулі і бабулі па бацьку, дзе праводзіў многа часу. Мы з бацькам хадзілі па Белавежскай пушчы і захапляліся яе прыгожасцю. Я тады навучыўся любіць у нашай пушчы тое, што цяпер фатаграфую. Калі мне купілі першы фотаапарацік, я першыя здымкі рабіў, лежачы на траве каля Скупава. З сямі гадоў я кампактнымі фотаапаратамі рабіў здымкі таго, што самае прыгожае ў Белавежскай пушчы, але якасць здымкаў не была найлепшай, — расказваў Андрэй Янюк. — Тры гады назад пачаў я люстранымі фотаапаратамі выконваць якасныя здымкі і стаў многа часу прысвячаць фатаграфаванню прыроды. Адрываючыся ад рэчаіснасці, стаў я прападаць у пушчы, фатаграфаваць самыя цікавыя пушчанскія месцы і іх насельнікаў. Нават ведаючы, дзе можа паявіцца канкрэтная лясная звярына, трэба доўга чакаць, покі яна туды прыйдзе. Бывае, што не знойдзеш тае звярыны, якую шукаеш і вяртаешся дамоў з пустымі рукамі, але застаецца радасць ад кантакту з жывой Белавежскай пушчай. Калі б я не быў захоплены пушчай, не змог бы столькі часу ў ёй прабываць, шукаючы самых лепшых момантаў для фатаграфавання. Калі я стаў паказваць свае пушчанскія фатаграфіі на адной з сацыяльных сетак, аказалася, што выклікаюць яны вялікую зацікаўленасць. Гэта стала матываваць мяне да працягвання фатаграфавання. У выніку рашыўся я выдаць календары і альбомы са сваімі фатаграфіямі дзікай звярыны, птушак і перадаць эмоцыі, спалучаныя з жыццём іх у нашым лесе. Паказваю там таксама прыпушчанскае наваколле. Мне падабаюцца здымкі Віктара Волкава — класіка фатаграфіі. Але ў мяне свой стыль фатаграфавання і свае тэмы. Я люблю блізка падысці да звярыны і, карыстаючыся добрым аб'ектывам, зрабіць здымак птушкі на цэлы кадр.

Андрэй Янюк выдаў альбомы «Птушкі» і «Магія Белавежскай пушчы» ды вялікафарматныя насценныя календары. Яго каляндар са здымкамі пушчы і яе наваколля можна было ўбачыць на адкрыцці выставы.

— Андрэй Янюк гэта скромны і чэсны чалавек, які цяпер вялікую частку свайго жыцця аддае фатаграфаванню перш за ўсё Белавежскай пушчы. Ён не пайшоў на камерцыю і часта многа часу цярпліва сядзіць у пушчы, каб зрабіць нейкі незвычайны здымак, хаця за гэты час мог бы зрабіць больш менш вартасных фатаграфій для продажу, — заявіў вядомы гайнаўскі фатограф Збігнеў Дзванкоўскі, які ў палове спансараваў выкананне фатаграфій на выставу. — На Гайнаўшчыне некалькі асоб робяць здымкі птушак і жывёл у падобны спосаб як Андрэй Янюк, але на яго здымках асаблівая атмасфера. Андрэй фатаграфуе ў многіх месцах, якіх я яшчэ не бачыў, а я таксама ў вольны часу люблю фатаграфаваць пушчу.

На адкрыццё выставы прыйшлі фатографы-аматары з Гайнаўкі, якія таксама фатаграфуюць Белавежскую пушчу. Яны разглядалі паасобныя фатаграфіі, а Андрэй Янюк адказваў на пытанні і рассакрэчваў месцы для фатаграфавання.

— Самым любімым маім сродкам транспарту з'яўляецца ровар, якім я магу даехаць у любое месца ў пушчы. Раней бывала, што я на суткі яднаўся з Белавежскай пушчай і, падмацоўваючыся бутэрбродамі, наведваў цікавыя месцы, фатаграфаваў іх і чакаў звярыну, якая не прыходзіць нават у яе любімыя месцы тады, калі мы хочам. Белавежская пушча ў мяне на першым месцы, але я люблю таксама фатаграфаваць прыгожыя старыя драўляныя цэрквы. Раблю гэта не таму, што я праваслаўны чалавек, але таму, што ў архітэктуры нашых драўляных цэркваў асаблівы клімат. Ахвотна фатаграфую вясковую драўляную архітэктуру. Аднак я засяроджваюся перш за ўсё на фатаграфаванні Белавежскай пушчы і не хапае ў мяне часу на падарожжы па наваколлі. Фатаграфіі прыгожых месцаў у пушчы, звярыны ці птушак — звышчасовыя, — гаварыў мастак-фатограф.

Андрэй Янюк супрацоўнічае з газетай «Падляшскія навіны», дасылае здымкі ў «Падляшскі кур'ер», што выдаецца ў Сямятычах. Яго фатаграфіі замяшчаюцца таксама на інтэрнэт-парталах.

— Відаць на выставе, што Андрэй Янюк выконвае цудоўныя, непаўторныя фатаграфіі ў Белавежскай пушчы, з якіх эмануюць станоўчыя эмоцыі. Мы жывем каля пушчы, але часта не заўважаем яе разнароднасці. На здымках мы бачым прыгожыя птушкі і дзікую звярыну, якія жывуць у пушчы, а якіх мы не ў змозе пабачыць зблізку. Мы павінны прамаваць здольных людзей, а ў гэтым выпадку фатаграфіі Андрэя Янюка, якія прычыняюцца да прамоцыі пушчанскага рэгіёна, — сказаў намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка, які разам з працаўнікамі ГДК уручыў аўтару выставы падарунак.

— Калі я ўбачыў прыгожыя пушчанскія фатаграфіі Андрэя Янюка, то захапіўся імі і рашыўся сарганізаваць выставу яго здымкаў. Наш дом культуры наведвае многа вучняў і дарослых асоб, якія змогуць пазнаёміцца з прыгожасцю пушчы і з яе жыхарамі, якіх відаць на здымках зблізку, — заявіў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч.

Загадчыца мастацкай часткі ГДК Ядвіга Кучкін прадставіла Андрэя Янюка



і коратка распавяла пра яго здымкі і зацікаўленне фатаграфаваннем Белавежскай пушчы. Старшая інструктар па справах мастацтва і рэкламы ГДК Анна Тарасюк, адказная за падрыхтоўку выставы «Натура-льна, аб'ектыў-на», сказала, што захоплена яго здымкамі блізкай жыхарам Гайнаўкі пушчанскай флоры і фаўны.

— Фатаграфіі Андрэя Янюка выкананы вельмі якасна і без тэхнічных памылак. Мяне на экспазіцыі асабліва цікавяць фатаграфіі птушак і звярыны. З ліку прэзентаваных здымкаў пушчанскага лесу найбольш арыгінальная фатаграфія знішчаных карaедамі, засохлых дрэў, якіх хіба няма так моцна знішчаных карaедамі ў іншых месцах у Польшчы, — сказаў гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі, якога фотавыставы раней прэзентаваліся ў Гайнаўцы.

— Калі я купіў вялікі тэлеаб'ектыў, стаў фатаграфаваць птушак, да якіх нельга падысці блізка. Калі птушка стаіць на пяньку, над зямлёй, здалёк яе не відаць і ўсё ж такі трэба падысці да яе на невялікую адлегласць. Гэта так трэба зрабіць, каб птушка не заўважыла фатографа, бо, прабываючы каля зямлі, птушка адчувае асабліва вялікую небяспеку. Адзін здымак, прэзентаваны тут на выставе, зрабіў я, прыкрыўшы галаву сеткай, і перад гэтым доўга седзячы нерухома. Аднак варта было рашыцца на невыгоду, цярпліва і нерухома чакаць таго моманту, каб зрабіць як найлепшы здымак птушкі, — сказаў Андрэй Янюк. — Асабліва незабыўныя ўспаміны засталіся ў мяне ад сустрэчы з рыссю. Было цудоўнае надвор'е, я ехаў на ровары, захапляўся пушчанскімі краявідамі і стараўся ўбачыць лясную звярыну. Тады заўважыў, што непасрэдна каля сцяжынкі, па якой я перамяшчаўся, сядзіць рысь, можа 3-4 метры ад мяне. Затрымаўся я і бачу, што рысь надалей сядзіць там, дзе я яе заўважыў. Я сеў на зямлю непадалёк ад яе, прыкідваўся, што рысі не бачу і стаў рабіць ёй здымкі. Можа разоў дзесяць шчоўкнуў фотаапаратам, а рысь спаглядала на мяне, то спазірала ў іншае месца, як бы чакала звярыны. У мяне былі так вялікія эмоцыі і рукі так трэсліся, што я не змог зрабіць ніводнай якаснай фатаграфіі. Рысь вельмі рэдка нападае на чалавека, але калі адчувае вялікую небяспеку, можа гэта зрабіць. У яе ж ёсць адпаведныя прылады, якімі патрапіць разарваць на кускі звярыну і таму мне пагражала небяспека, што магу стаць ахвярай рысі. Але прага зрабіць фотку для рысі была вельмі вялікай. Толькі пазней я ўсвядоміў сабе, што сядзеў 3-4 метры ад рысі і ўжо ніколі ў жыцці не сяду так блізка яе. Гэта быў цуд, які не паўторыцца.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Варта агледзець фотавыстаўку

Варта наведаць Галерэю імя Тамары Саланевіч у Нараўцы і агледзець фатаграфічную выстаўку пра былую вялікую вёску Лука і яе колішніх жыхароў. Цяпер гэтыя здымкі з'яўляюцца дакументам пра вёску, залітую вадой Семяноўскага вадасховішча.

Маладыя людзі не памятаюць яе. На маім жыццёвым шляху прыйшлося даволі часта пабываць у Луцэ. Яна 6 км ад маёй роднай вёскі Новае Ляўкова. Ездзіў на польскім ровары „Алімп" і на матацыкле маркі „CHL" Наведваў свайго стрыечнага брата Васіля Целушэцкага, які там настаўнічаў і быў кіраўніком пачатковай школы (стаяла яна на пачатку вёскі).





У Луцэ пабываў я на вясковых сходах, у краме, у якой працаваў Сяргей Лобач, у хаце разьбяра па дрэве спадара Жукоўскага (жыў ён у канцы вёскі), у тамашнім клубе прэсы і кніжкі „Рух". Я ўжо тады рабіў здымкі польскім фотаапаратам „Старт" і дасылаў допісы ў „Ніву". Яны былі надрукаваны. Спадар Лобач у краме стаяў за прылаўкам у белым фартуху і нешта важыў на вазе. Спадар Жукоўскі быў у капелюшы на галаве і трымаў у руцэ прыгожую драўляную разьбу зубра. Летам наведаў я з фотаапаратам вясковы г.зв. зялёны дзяцінец, які вяла маладая выхавацелька. На абед дзеці хадзілі ў школу. Былі канікулы і ў школьных класах арганізавалі гульні для малечаў. Вядома, тады, калі ішоў дождж. Сонечныя цёплыя дні дзеці праводзілі над ракой Нарвай, найчасцей каля кладкі на рацэ. Тут рака выгіналася лукам. Ніжэй гэтага лука была вёска Лука. Адтуль і яе назва.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Нараўчанскія інспірацыі



**У мастацкай Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы 19 лістапада сабраўся цвет тутэйшых і замежных мастакоў, на прэзентацыі пленэрных прац з апошніх гадоў і паказе альбома «Нараўчанскія інспірацыі 2011-2016».**

— Дзякую ўсім мастакам, якія сталі амбасадарамі Нараўчанскай гміны. Пленэры далі плён больш за 200 прац у нашай галерэі, — войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч ганарыцца творчымі здабыткамі тутэйшых і замежных мастакоў, якія пабывалі на тутэйшых пленэрах. — А найбольшая ў тым заслуга Віктара Кабаца і Пятра Гагана. Яны былі першымі, якія заразілі нас гэтым спосабам папулярызавання гміны, узмацнення каштоўнасцей, увекавечання памятак, якія, на жаль, прападаюць, ды намаляваныя — жывуць. Ёсць клімат для таго, каб працягваць адлічванне новых пленэраў, бо ёсць спрыяльны клімат і ў самаўрадзе гміны. Для нас гэта найлепшы спосаб для прасоўвання нашай мясціны і гміны.

— Нараўка, маленькая мясцовасць затопленая ў незабруджаным яшчэ цывілізацыяй краявідзе, аколеная цудоўнай Белавежскай пушчай, можа ганарыцца пятнаццацігадовай гісторыяй пленэраў і ўласнымі зборамі мастацтва, у адзінай ён сапраўднай прафесійнай мастацкай галерэяй, атрымаўшы імя знакамітай дакументалісткі, ураджэнкі гміны, жыхаркі Нараўкі Тамары Саланевіч, якая сваю вучобу пачынала якраз у гэтым будынку. Цудоўныя тут ваколіцы, мноства матываў для малявання. Важна тое, што дзякуючы гэтаму пленэру паяўляецца вельмі многа добрых, на высокім узроўні, прац, якія паказваюць тое, што памаленьку знікае з гэтага краявіду. Гэта старыя дамы, характар і выгляд вёскі, нейкія прыродныя матывы, якія з гадамі змяняюць і свой выгляд, і характар, і цалкам прападаюць. Гміна атрымлівае вялікі набытак. Вельмі многа з гэтых прац паказвае тое, чаго ўжо няма. Няма некаторых хат, і вёска выглядае іначай. Іншыя былі людзі. З гэтай прычыны каштоўнасць пленэру вельмі вялікая. Важна таксама тое, што калі з'едуцца людзі, і з замежжа, і з усёй краіны будуецца важны мастацкі дыялог. Пленэры маюць вельмі важны чалавечы фактар, вядуцца размовы, дыскусіі, нараджаецца сяброўства і разуменне

І пералічвае час ад пачатку першага пленэру:

— Першы пленэр адбыўся ў Нараўцы, выдуманы Пятром Гаганам і Кацярынай Бляўскай. Удзельнічала ў ім толькі шасцёх мастакоў, але быў ён вельмі важны. Адрасваімі своеасаблівымі беларускімі звычаямі, рэлігіяй і культурай ствараюць амаль неабмежаваныя магчымасці мастацкай пенетрацыі, уплываюць на характар і клімат прац. Пленэры не маюць пастаяннай сядзібы. Гмінны асяродак культуры, перамагаючы арганізацыйныя цяжкасці, дае магчымасць пабыўкі мастакоў у розных мясцовасцях. Гэта галоўным чынам старыя вёскі маляўніча ўтуленыя ў Белавежскую пушчу, як Старове Масева, Скупава, Семяноўка з залівам. Найдаўжэй пленэры гасцявалі ў Ляўкове, распаложаным на лагодных пагорках, праз якія прабіваецца звілінамі рэчка Нараўка. Ад поўдня даліну ракі, сёння зарослую дзікімі лугамі, закрывае моцная сцяна Лядскай пушчы... Кожны ўдзельнік пленэру пакідае ў галерэі адну карціну — камісія з трох асоб выбірае працы, якія падмацоўць зборы галерэі. Добрыя ўмовы прабывання і працы, амаль сямейны клімат, гасціннасць мясцовых людзей — гэта вельмі спрыяла пленэрам. На пленэрах, жывапісна-разьбярскіх, выкарыстоўваўся скарб Нараўчанскай зямлі — гліна. І камень, і драўніна. Пленэры адбываліся ў розных порах года, нават зімой. Адтуль разнароднасць тэхнік, узнікання таксама прасторавых форм. Пабыўкі мастакоў на Нараўчанскай зямлі і іх багатая творчасць з ходам гадоў утварылі традыцыі і на пастаянна ўпісаліся ў мастацкую культуру гміны. Нам, мастакам, які тут былі і будуць, застаецца надзея на далейшыя пленэры і далейшае ўбагачанне Галерэі цікавымі працамі. Спадзяемся, што нашы пленэры будуць працягвацца. Для нас гэта пазітыўны момант, і з-за таго, што маем тут шмат што для малявання, а перш за ўсё можам спаткацца. Задума спасылкі на багатую творчую традыцыю, выкарыстанне непаўторных каштоўнасцей краявіду, гасціннасці і абычаяў жыхароў, кліматы пушчанскіх вёсак і пасёлкаў схільваюць нас да новых творчых дзеянняў.



у краіне вясковай галерэі мастацтва, — лічыць Віктар Кабац, адзін з пачынаючых мастацкія пленэры ў Нараўчанскай гміне. — На 15-м пленэры былі мы з Данілам Грамацкім, Альжбетай і Аляксандрам Гжыбкамі з Беластока, нараўчанскім хаця цяпер люблінскім Паўлам Карпюкам, з Ганаратай Свідэрскай з Лэнчнай, Веславам Бэднажам з Канапніцы, з Рэбекай Брудэр і Валянцінасам Варнасам з Коўна, і наймалодшымі тутэйшымі мастакамі — хоць торуньскім, але ж беластоцкім Радаславам Мацеівічам і люблінскай ды нарваўскай Кацярынай Сянкевіч. А ахвотных было значна больш, каб пабыць на легендарным ужо мастацкім пленэры на ўскраіне пушчы, з якога застаюцца найлепшыя творы ў незвычайную галерэю — галерэю імя Тамары Саланевіч. Дзякуючы еўрасаюзным датацыям адрамантавалі былі адзін са старых будынкаў нараўчанскай школы, яшчэ з царскага часу. Стаў зу атрымаў ён вялікую падтрымку войта Мікалая Павільча. Пераканаў ён радных, што арганізацыя наступных пленэраў гэта дасканалая прамоцыя прыродных і нацыянальных каштоўнасцей Нараўчанскай зямлі. Калі атрымалі грошы з Еўрасаюза, сталі рамантаваць тую школу, што стала галерэяй. Працягваўся рамонт досыць доўга, два ці тры гады. Адрамантавалі прыгожа, і цяпер гэта прафесійная галерэя, якая павінна быць для экспанавання карцін, скульптур. Стала яна сапраўднай прафесійнай мастацкай галерэяй, атрымаўшы імя знакамітай дакументалісткі, ураджэнкі гміны, жыхаркі Нараўкі Тамары Саланевіч, якая сваю вучобу пачынала якраз у гэтым будынку. Ёсць там пастаянны працаўнік, што з'яўляецца феноменам, бо яго ўтрымлівае гміна. Галерэя адкрыта пяць дзён у тыдні. Цяпер частку прац, якія там апынуліся, можна прадаць... Паяўляюцца новыя працы. Унікальная архітэктура прыпушчанскіх вёсак, які і іх жыхары са

У альбоме змешчаны найлепшыя працы Веслава Бэднажа, Рэбэкі Брудэр, Пятра Гагана, Рамана Хаінкі, Данілы Грамацкага, Альбеты Гжыбэк, Аляксандра Гжыбка, Алекса Ярэлы, Міхала Янчука, Ежы Ерыха, Віктар Кабаца, Данеля Ліпяна-Канюка, Паўла Карпюка, Малгажаты Краўчык, Войцеха Майчыка, Марыі Найдэк, Станіслава Лешка Асташэўскага, Ядвігі Памяноўскай-Вільдэ, Святланы Рыжыкавай, Малгажаты Самборскай, Багдана Самборскага, Марка Сапёлкі, Андрэйса Сэвэрэтнікоўса, Людмілы Сабалеўскай, Ганараты Свідэрскай, Цацыліі Сал'ян, Тэрэсы Свярбутовіч, Катажыны Урбаняк, Валенцінаса Варнаса, Анны Вансікевіч, Майкі Зузанскай, Міраслава Здрайкоўскага і наймалодшых тутэйшых мастакоў — Кацярыны Сянкевіч і Радаслава Мацеівіча. Працы з апошніх трох пленэраў можна пабачыць на пастаяннай выстаўцы ў Галерэі Тамары Саланевіч у Нараўцы па вуліцы Міцкевіча, 50, а прасторавыя скульптуры — над рэчкай Нараўскай за амфітэатрам, на пляцы воднай станіцы.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Фіранкавая Анна



■ Анна Пухальская

**Шмат цікавага знаходжу на архіўных старонках «Нівы». Даўно памерлы дзядзька на пажоўклым здымку ўсміхаецца ў вясне жыцця. Помню яго бязрукім, з жывоцікам. Нават не ўяўляла, што быў так прыгожым кавалерам, пры тым сэрцам аддадзеным беларускай культуры і мове вясковым настаўнікам. Бабулю з Піражкоў помню па сёння. Цікава распавядала, ганарылася мовай бацькоў. Я была ўпэўнена, што яшчэ сустрэнемся. На жаль, было гэта маё першае і апошняе спатканне з ёю. На прошлым тыдні піражкоўская бабуля адышла ў лепшы свет. Закрыла за сабой дзверы піражкоўскага прошлага, але засталася ў газеце, назаўсёды. Праўнукі напэўна будуць пра яе чытаць пры дапамозе камп'ютарных перакладаў.**

Такой дапамогай пакарыстаюцца народжаныя ў Англіі ўнукі Анны Пухальскай з Крынак.

Спадарыня Анна ініцыюе нашу сустрэчу зараз пасля свайго вернісажу ў крынскай бібліятэцы. Першы ў жыцці вернісаж, першае інтэрв'ю. Першы таксама педагагічны досвед — праца з вучнямі мастацкага ліцэя ў Супраслі. Як педагог справілася на пяць з плюсам. Вязаць на прутках навучыла нават хлопцаў. Адзін абзацаў, што звяжа фіранку сваёй маме. Добра выхавала таксама сваіх хлопцаў-блізнят Богдана і Веська і дачку Бажэну. Так склалася, што дзецьмі прыйшлося займацца адной, пры тым зарабляць на хлеб цяжкай працай у мясцовым шпіталі. Усяляк бывала, але ніколі не здавалася. Дзеці выраслі на самастойных, уражлівых людзей, дапамагаюць іншым, не баяцца жыццёвых выклікаў. Людзі ім давяраюць. Бажэну нават солтысам выбралі. Растуць і ўнукі. Жаль толькі, што наймалодшыя за мяжой. Анна чакае лета, каб зноў з імі сустрэцца. Заўсёды прыязджалі дык і цяпер прыедуць. Пакуль глядзіць на здымкі ўнучанят, прыклееныя да дзвярэй халадзільніка. Дзеці заўсёды былі і застаюцца для Анны найважнейшымі. Прысвячае ім цэлае сваё жыццё і... фіранкі.

Вязаць марыла з самага дзяцінства. 66-гадовая Анна нарадзілася ў падкрынскіх Цюмічах. Людзей жыве там цяпер няшмат, а на загуменні толькі дзікія кусты і лес. За яе часоў стаяла там пятнаццаць хат, у кожнай па двое-трое дзяцей. Усе сяброўкі, закончыўшы пачатковую школу, павыязджалі ў горад. Не хацелі гаспадарыць, тады гэта было зусім нямоднае. Анна засталася, пакуль яе замуж у Крынкі не ўзялі. Рукадзелле стала яе галоўнай, калі не адзінай, пацехай. Прала, разам з мамай ткала дываны на кроснах, вязала шкарпэткі і рукавіцы. Гэта была эпоха для пруткоў. А потым у крынскіх вокнах паявіліся фіранкі, не з паперы, а сапраўдныя, вязаныя. Першай, якая навучылася іх вязаць у Цюмічах, была яе суседка, другой — родная сястра. Тонкія, белыя абрусы і фіранкі асвятлялі цяжкія, гаспадарскія будні. Анна ў іх проста закахалася. Пруткі зрабіў ёй бацька. Звычайная справа. Тады кожны мужчына меў працавітыя рукі, якімі вычароўваў усё, чаго душа пажадае. Анна чаравала на прутках у кожную вольную ад гаспадарскіх абавязкаў хвіліну. Найчасцей доўгімі, зімовымі вечарамі пры газовачцы. Бабы збіраліся ў адной хаце. Пачыналася з шэрай гадзіны. Лямпу яшчэ не запальвалі, каб газы не марнаваць. Уключалі радыёпрыёмнік на батарэі, але ў асноўным размаўлялі. Абмяркоўвалі свае справы: хто што на абед зварыў, што ў хаце зрабіў, планавалі набліжаючыся ткацкі сезон. Тэм для размоў сапраўды было шмат. Адна з іх — пасаг. У той час кожная незамужняя дзяўчына рыхтавала яго асабіста. Абавязковай была снежна-белая пасцель з устаўкамі, звязанымі пруткамі альбо кручком — апошні крык моды, зусім невядомы мацярам маладух.

— Без пасагу панны ніхто б не ўзяў, — кажа спадарыня Анна.

Яе старэйшая сястра на другі дзень вяселля, ехаўшы да мужа ў Паўднёвы Востраў, забірала з сабой куфар поўны пасцелі, ручнікоў, настольнікаў, фіранак, кашуль і іншай бялізны. Везлі яго канём за маладой.

Прыгожая пасцель і фіранкі зніклі з ужытку недзе ў сямідзясятых гадах. Адраджэнне наступіла ў час крызісу, на пераломе васьмідзясятых і дзевяностых гадоў. Цяпер існуюць у якасці рэлікту ў музеях і галерэях.

— Няшмат засталося такіх, якія займаюцца вязаннем, — сцвярджае мая субяседніца, — але і ў юнацтве мае сяброўкі не вельмі цягнуліся да такой працы. Ім больш хацелася ў школу, да людзей. А я сядзела ў хаце, на гаспадарцы, мне было цікава.

Узоры сурвэтак складала ў галаве. Былі гэта пераважна кветкі. Часам карысталася гатовымі ўзорамі, прывезенымі мамай з Крынак. Адбывалася гэта менавіта так: маці, ідучы па горадзе, бачыла ў вокнах фіранкі. Калі нейкая спадабалася, уваходзіла ў хату і прасіла пазычыць фіранку.

— Калісь людзі ніколі не адмаўлялі, не шкадавалі.

Мастацкую справу перапыніла замужжа. І толькі калі стала сама сабе паняй, вядома, з любімымі дзяцьмі, зноў да яе вярнулася, у гэты раз назаўсёды.

Вязанне супакойвае, расслабляе, прыносіць шчасце, прынамсі спадарыні Анне.

— Гэта маё жыццё, — гаворыць.

— І ўсё гэта дзецям і ўнукам. Няхай карыстаюцца.

Але ж хочацца перадаць і фах некаму. Праз пасрэдніцтва Ганны Сянкевіч з Лапічаў да Анны з'ехалі вучні Супрасльскага мастацкага ліцэя. Спатрэбіліся толькі пяць сустрэч, каб захапляцца іх рукадзеллем. Палюбіліся, не шкадавалі супольна праведзеных хвілін. Чарговая мара спадарыні Анны збылася.

Пры ўключаным дыктафоне Анна гаворыць па-польску, калі яго выключаю, пераходзіць на прыгожую беларушчыну.

— У Цюмічах па-польску ніхто не гаварыў, — тлумачыць, — хаця жылі там і католікі. Анна таксама каталічка, але магіла яе бацькі Яна Харужага — цюміцкага прымака з Ямашоў знаходзіцца на праваслаўным могільніку ў Крынках.

Анна вельмі расхвалявалася нашай сустрэчай. На развітанне абдымае мяне, цалуе і запрашае на чарку.

❖ **Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Медалі шлюбным парам

10 лістапада 2016 года ва Управе гміны ў Чаромсе адбылося ўшанаванне шасці шлюбных пар з нагоды 50-годдзя сужонства. Віншавальныя граматы і медалі ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай уручыў войт гміны Міхал Врублеўскі. Узнагароджаны былі наступныя юбіляры: Андрэй і Вольга Дубягі, Міхал і Анастасія Патэйчукі, Юзаф і Сафія Скузы, Уладзімір і Ніна Шаўчэнкі, Марыя і Мікалай Свентахоўскія ды Уладзімір і Тамара Высоцкія. Шлюбным парам былі ўручаны падарункі і кветкі. Пры салодкім пачастунку і бакале шампанскага юбіляры вярталіся ўспамінамі да мінулых будняў. Сустрэча праходзіла ў сардэчнай, сяброўскай атмасферы. **(ус)**



■ Стаяць злева направа: Міхал і Анастасія Патэйчукі, Ніна і Уладзімір Шаўчэнкі, кіраўнік ЗАГСа Аліцыя Пыталь, войт Міхал Врублеўскі, Марыя і Мікалай Свентахоўскія; сядзяць: Анрэй і Вольга Дубягі і Уладзімір Высоцкі

# Дэмаграфія Боцькаўскай гміны

Вясковая Боцькаўская гміна знаходзіцца ў паўднёвай частцы Падляшскага ваяводства і ўваходзіць у склад Бельскага павета. Займае яна 17 % тэрыторыі павета. Мяжуе з Бельскай, Бранскай, Дзядковіцкай, Кляшчэлеўскай, Мілейчыцкай і Арлянскай гмінамі. Плошча яе 232 квадратныя кіламетры. Гэта тыпова сельскагаспадарчая гміна. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 73% плошчы гміны, а лясы — 20%. Тут плыве маляўнічая рэчка Нурэц.

У Боцькаўскай гміне нейкая незвычайнасць: 36 мясцовасцей ды 38 салэцтваў. У іх пражывае 4570 чалавек. Шчыльнасць насельніцтва — 20 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 95 жанчын. Прадстаўнікоў мужчынскага полу нашмат больш чымсьці дзяўчат і жанчын ва ўзроставых групах 10-14 ды 15-19 і 25-29 гадоў. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын у тры разы больш чымсьці мужчын. Гміна становіцца абязлюджанай. Сёлета ў гміне нарадзілася 11 дзяцей ды памерлі 33 чалавекі. Пажаніліся 15 пар. 25 кастрычніка «залатое вяселле» згулялі 23 пары, у якіх муж і жонка пражылі з сабою 50 гадоў. Юбілярам прэзідэнт РП узнагародзіў медалямі «За шматгадовае шлюбнае жыццё». Уручыў іх сакратар Гміннай управы ў Боцьках Станіслаў Харытон, які напісаў і зачытаў верш з нагоды юбілею.

Найбольшыя вёскі ў гміне: Боцькі налічваюць 1 496 чалавек, Андрыянкі — 342, Якубоўскія — 257, Сельц — 192, Дубна — 162, Старое Сяло — 144, Краснае Сяло і Альшэва — па 132 жыхары, Бадачкі — 127, Сяклюкі — 126 і Нурэц — 113.

Ад 60 да 100 асоб налічваюць вёскі Верцень — 96, Войткі — 93, Быстрэ — 87, Бадакі — 86, Пятрова-Кшывакалы — 83, Малочкі — 77, Сольнікі — 71, Гаўрылкі — 69 і Снежкі — 62. Найменшыя мясцовасці Боцькаўскай гміны гэта Вандалінэк — 10 жыхароў, Вылян і Храніборы — па 11 чалавек ды Выганова — 16.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Воўчае права натуры

11 верасня г.г. паслаў я прэзідэнту горада Беластока Тадэвушу Трускаляскаму, як карэспандэнт і публіцыст, тэкст надрукаваны ў «Ніве» № 36 ад 4 верасня «Не тлумач, толькі плаці» з просьбай, каб магістрат прадставіў свае заўвагі наконт крытычнага матэрыялу. Паводле прэсавага закону ўрадавы орган, дзяржаўная ўстанова ды іншыя дзяржаўныя адзінкі, а таксама кааператыўныя арганізацыі абавязаны адказаць на прэсавую крытыку неадкладна, не пазней чым на працягу аднаго месяца. Але прэзідэнту горада маё пісьмо мабыць трын-трава. Ён карыстаецца сваімі правіламі. Да гэтага часу маўчыць быццам вады ў рот набраўшы. У мінулым, даражэнькія, інакш улада ставілася да крытыкі. Рэдакцыя пасылала прэсавы матэрыял у адпаведную сітуацыі ўстанову, затым адказ друкаваўся на старонках газеты. Быў вынік і задавальнена карэспандэнту. У цывілізацыйным прагрэсе ўсё перамянілася. Зараз чыноўнікі паводзяць сябе паводле прынцыпу: хто пры ўладзе, гэты пан! Такое, мабыць, ужо воўчае права натуры.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Прысяга першакласнікаў бельскай «тройкі»

Да гэтага свята вучні, настаўнікі і бацькі рыхтаваліся ўжо загадзя. Прысяга першакласнікаў Гімназіі № 3 з Бельска-Падляшскага, якая прайшла 17 лістапада, як штогод была ўрачыстай і ўзнёслай. Вядома, што кожны, у залежнасці ад узросту і задачы, перажываў мерапрыемства па-свойму. Вось маленькая рэкагнасцыроўка:

## Дырэкцыя

Барбара Скепка, упаўнаважаная дырэктара, здаецца наймацней умее ўвайсці ў становішча вучняў, якія пачынаюць новы перыяд у сваім жыцці. Таму так урачыста стараліся адсвяткаваць прысягу вучняў першых класаў гімназіі, каб выказаць сваю пашану і радасць з перспектывы супольнай трохгадовай будучыні.

## Настаўнікі

Вядома, што найбольш энергіі і часу дзеля падрыхтоўкі мерапрыемства патрабавалася ад настаўнікаў, у першую чаргу выхавацелек першых класаў Валянціны Бабулевіч і Кацярыны Шаранос. Аднак, як падкрэсліла настаўніца беларускай мовы Валя Бабулевіч, нават у дзень урачыстай прысягі, на расчараванне вучняў, усе заняткі адбыліся.

## Святары

А віншавала ажно трох: праваслаўны кс. Андрэй Неліпінскі, каталіцкі кс. Тамаш Лапінскі і праваслаўны кс. Адам Дзенісюк. Іхнія віншаванні і пажаданні ўзаемна папаўняліся. Кс. Неліпінскі выказаў давер для першакласнікаў, у якіх бачыць будучыню. Аднак, каб гэта дасягнуць, кс. Лапінскі раіў супрацоўнічаць з настаўнікамі і бацькамі, якім у першую чаргу залежыць на развіцці сваіх вучняў і дзяцей. Кс. Адам Дзенісюк прыгадаў першакласнікам, што маюць магчымасць вучыцца ў адной з лепшых школ у маштабе Польшчы. Таксама выказаў спадзяванні, што паралельна з інтэлектуальным развіццём будзе ішло і духоўнае.




## Сем'і

Прыгожай ужо традыцыяй з'яўляецца прысутнасць бацькоў на арганізаваных школай мерапрыемствах. Прыйшлі бацькі, дзяды, сястры і брацікі. Дзесяцігадовы Шымэк, беручы пад увагу невялікі (яшчэ) узрост, сядзеў у першым радзе. Дзякуючы таму добра бачыў сваю сястру, мог паглядзець на яе сур'ёзную паставу і падзяліцца ўсімі заўвагамі з сядзячым за плячыма бацькам.



Дам'ян Бусловіч

## І самі першакласнікі

Крыху стрэсу, але ўсётакі калідор перапаўняў радасны гоман. Школа ўжо вядомая, аднак, як адзначыў Дам'ян Бусловіч, мінулагодні лаўрэат прадметнага конкурсу па беларускай мове, заўважаецца, што настаўнікі больш патрабавальныя. Аднак амаль кожны мой суразмоўца чакаў ужо менш афіцыйнай часткі мерапрыемства — школьнай дыскатэкі!

**Уршуля ШУБЗДА**

---

**Якуб ГОЙКА**
Тыльвіца, ПШ у Міхалове

## Леў

Воблік поўны, позірк грозны,
Гэта леў, ці коцік,
Павольна да мяне крочыць?!
Што я бачу, гэта што?
Леў папівае малачко!

---

**Уршуля МАРЧУК**
Гімназія ў Нараўцы

## * * *

Гаснуць лямпы.
Робіцца цёмна.
Сабакі на двары пачынаюць брахаць,
Ідзеш вуліцай і думаеш.
Думаеш пра тых,
Што ходзяць побач цябе.
Бачыш сабак,
Баішся.
Уцякаеш ад іх,
Яны цябе гоняць і гоняць.
Яны штораз бліжэй.
Ужо не даюць рады.
Твой страх расце,
Становіцца большы.
Хочаш, каб ён знік,
Каб перамяніўся ў штосьці іншае.
Але гэта не прыходзіць так хутка.

---

**Міра ЛУКША**

## Язмін

*Белай пенай дыхае*
*язмін каля хаты.*
*Усходняй песняй ціхай*
*павевам крылатым*
*ветрык закалыша.*
*У вейкі залатыя*
*у святочнай цішы*
*кветачкі цалуе*
*пчолка, жук бухматы,*
*у пыльцу бушуе,*
*зусім п'янаваты,*
*ад слодычы цяжкі,*
*над кветам васковым,*
*ад нектару важкі...*
*Язміне святочны,*
*язміне вясковы!*
*Арамат твой точыш*
*цудна-адмысловы.*
*А заплюшчым вочы —*
*язмін пахне знова.*

---

# УВАГА КОНКУРС!

## № 48-16

**Вось загадка для Андрэйкі:**
**Там і шпалы ёсць і рэйкі,**
**Малаточкі па іх б'юць**
**І мелодыю вядуць.**
**П......**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 11 снежня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 45: хмара.**

**Узнагароды, тачылкі для алоўкаў (temperówki) выйгралі Іаанна Нікіцюк, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Аляксандра Аніськевіч з КШ № 1 у Ганаўцы, Аляксандра Салавянюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Тамаш Ваўжэнюк з Нарвы. Віншуем!**

# Хожа і госці
*(казкі народаў Каўказа)*

Аднойчы вечарам да Хожы нечакана прыйшлі госці. А ў хаце не было нічога з яды. Стала мясіць цеста жонка, каб спячы пірагі-хычыны, а Хожа ўзяў збан і пабег на базар па смятану. Купіў ён смятану і ляціць дамоў. Ужо набліжаецца да хаты, засталося перайсці кладкай праз раку. Ідзе асцярожненька Хожа і дрыжыць, каб не бухнуць у ваду.

«Не дай Бог спатыкнуся, паб'ю збан і астануся без смятаны. Што тады будзе? Аднак Усявышні ведае маю беднасць, не дапусціць да гэтага», — думае ён.

Прайшоў асцярожненька Хожа ўжо амаль цэлую кладку і ў момант, калі яму засталося зрабіць адзін крок, ён падумаў: «Цяпер і без дапамогі Усявышняга спраўлюся».

Не паспеў падумаць, збіўся з ног і бах, зваліўся з ног, смятана разлілася.

— А-я-я-й! Усявышні, кажуць Ты мудры, — сказаў горка Хожа, падымаючы зрок у неба, — але бачу, не хапае Табе пачуцця гумару. Я пажартаваў сабе, а Ты ўзяў мае жарты ўсур'ёз. Што мне зараз рабіць? Няма ў мяне ні грошай, ні смятаны. А госці ў хаце, прыняць трэба.

Сабраў ён чарапкі збана, патоўк іх на дробны парашок і ідзе цераз вёску ды крычыць на цэлае горла:

— Купляйце парашок ад блох!

А ў той вёсцы амаль у кожнай хаце былі блохі. Хуценька раскупілі людзі парашок, а Хожа на базар павярнуў. Аж, раптам, у дарозе даганяе адзін пакупнік і просіць рады:

— А як карыстацца гэтым парашком ад блох?

— Вельмі проста, — кажа Хожа, — трэба злавіць блыху і абсыпаць яе парашком. Спачатку яна аслепне, а пасля здохне.

— Але ж калі я злаўлю блыху, дык прасцей яе раздушыць?!

— Ну так, гэта яшчэ лепшы спосаб, — пагадзіўся Хожа,

— Ах ты, ашуканец! — крыкнуў чалавек і кінуўся з кулакамі на Хожу.

Хожа, тут як тут, ухіліўся і давай ходу. Прышыбаваў ён на базар, купіў мяса і рыс ды згатаваў для гасцей смачны плоў.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*


55-юбілей "Нівы", Выступае моладзь з АБ-БЫ

## Замкі і палацы Беларусі

# СТАРАЖЫТНЫ КАСЦЁЛ — ЗАМАК У КАМАЯХ

Ці касцёл можа быць абаронцай крэпасцю? Прыкладаў не трэба шукаць далёка, наша Супрасльская лаўра пабудаваная ў гатычна-абаронным стылі.

Асення завітаем у Камаі, што ў Віцебскай вобласці. Там знаходзіцца касцёл, якога не здолелі разбурыць працяглыя абстрэлы шведаў у час Паўночнай вайны. У памяць гэтага здарэння ў сцены касцёла ўбудаваныя шведскія гарматнія ядры.



З выгляду касцёл напамінае белы, дастойны замак. Пабудавалі яго на зломе XVI і XVII стагоддзяў, па прыказе Яна Рудаміны-Дусяцкага, героя бітвы пад Хоцімам. Ад пачатку Камайскі касцёл служыў вернікам. За чатырыста гадоў існавання ён ніколі не быў закрыты, нават у час ваяўнічага атэізму, калі навокал закрываліся і разбураліся многія цэрквы і касцёлы.

Усярэдзіне захаваныя старажытныя арганы, на якіх іграў вядомы музыкант пачатку XX ст. Бранісłаў Руткоўскі. Тут жа знаходзіцца цудадзейны вобраз Ісуса Хрыста з сіроткай, аўтарства самога Альфрэда Ромера. Ёсць і падляшскі матыў. Апошнім часам у Камайскі касцёл падараваныя святыні бласлаўлёнага Ежы Папялушкі, родам з Сакольшчыны. Малітвы ў памяць святога пакутніка тут спраўляюць на беларускай мове.

Кожны, хто наведае месца, зверне ўвагу на старажытны крыж, які стаіць насупраць касцёла. Ён напамінае язычніцкую скульптуру з каменя і выклікае розныя здагадкі. Мясцовыя людзі вельмі шануюць крыж. Яны лічаць, што ён ахоўвае вёску ад бяды і пажараў.

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа



### Лянівы гадзіннік

Валодзя з сябрам Міколам
Ідуць раніцай у школу.
Мікола пытае Валодзю:
— Твой гадзіннік
добра ходзіць?

Валодзя кажа надзіва:
— Гадзіннічак мой лянівы,
Якога ніхто не ўзрушыць.
Насіць яго заўжды мушу.

### Найстарэйшы дзедка

Запыталі Адама
— Колькі вас у мамы?
— Нас так лоб у лоб
Будзе шэсць асоб.

— Дык хіба ты ў мамы
Найстарэйшы, Адаме?
— Я дык малалетка,
Найстарэйшы ў нас дзедка.

## Польска-беларуская крыжаванка № 48-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 45:**
Гімн, гарт, гук, густ, парк, Ас, партал, на, ясь. Грак, пан, гурт, факт, ля, страсць.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Амелія Васільчук, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Кінга Куптэль, Барбара Мішчук** з Гімназіі з ДНБМ у Гайнаўцы, **Оля Хіліманюк, Аліўка Порац** з Нарвы, **Якуб Голец, Агнешка Зданоўская, Гжэсь Васілюк, Аляксандра Раманюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!



Юры БАЕНА

## Завея

*На вуліцы Чырвоных кастроў*
*каркаюць вароны.*
*На вуліцы Чатырох ветроў —*
*дывізіі гулкіх слоў.*
*На плошчы Надзеі —*
*снежныя траншэі.*

*У чыстым полі —*
*бел-белыя сцягі.*
*Крыжовыя шэсці*
*чужых на чужых,*
*сваіх на сваіх.*
*Змяркае.*
*У пурзе стаяць*
*батарэі таемных гармат...*
*Свету ўжо не відаць.*
*У акіяне ночы*
*ніяк не разгадаеш:*
*хто вораг,*
*а хто брат?*

## Рабінзон

*Рабінзон Крузо астаўся сам*
*у апусцелай вёсцы,*
*адзін на адзін, як на востраве.*
*Дом яго – сцэны чатырох ветроў*
*і крыжы акон.*
*Прошлае ў памяці шасціць, як*
*трысцё.*
*Каля саду, цяжкога ад яблык,*
*гарыць каліна,*
*дрыгаціць асіна.*
*Сохне ўжо лісце слоў.*
*Верная мова нямовы —*
*спрадвечная прыстань.*
*Дываны саматканыя,*
*ручнікі вышываныя —*
*вясёлкавы краявід*
*і райскія птахі шчасця.*

*Звоняць званочкамі ландышы,*
*рамонкі ў полі калышуцца...*

*Рабінзон на сваім.*
*Яму ўсё яшчэ лёс*
*дарыць і хлеб, і соль.*
*Кожны дзень у жыцці —*
*гэта скачок з шастом*
*па-над туманнаю ракой*
*і над глыбокай, як акіян, цішай.*

Міра ЛУКША

## Кавалеры з Нарвы

*Яблычак чырвоны маю ў руцэ,*
*Хачу ў падарку даць Ганначцы.*
*Ганначкі вяночак плыве па рацэ,*
*З васілёчкаў звіты і са свечачкай.*

*Яблычак чырвоны каму дам?*
*Каму сэрца б'е „там-там-там”?*
*Хто мне сэрца дасць, то і я аддам.*
*Завяду ў царкву, у свой дом.*

*Ганначкі вяночак злавіў Мікалай.*
*Рады ён такі, хоць у морду дай.*
*Я бягу згары, верашчу: „Аддай!”,*
*А Мікола мне: „Вымятай!”*

*Кажу я яму: „Рыжык ты!*
*І гарбаты нос, рукі пядзі тры,*
*А жывот які – аж у тры пуды,*
*Зямля ў цыбе – з зямлёй ты куды?!*

*А я з горада вось мужык,*
*І „фіат” у мяне, і пакоі тры.*
*Дроў насіць не трэба, грэць вады.*
*Дзеўцы будзе рай, не з такім як ты!”*

*Пайшла Ганначка не з намі,*
*Узяла беластоцкага, з грашамі.*
*„Мерседэс” ён мае, а не „фіат”.*
*Засталіся з фігай мы – я і брат!*



Бельскі беларускі ліцэй

# Пачаткі ліцэя. Яраслаў Кастыцэвіч (ч.2)

Адразу пасля вызвалення Бельска з-пад змрочнай нямецкай акупацыі Яраслаў Кастыцэвіч актыўна ўключыўся ў арганізацыю новага жыцця, хоць яшчэ не было да канца вядома, якой мае быць гэтая новая ўлада. У жніўні 1944 года ён быў выбраны членам Гарадской рады нарадовай, а Рада выбрала яго адным з двух намеснікаў бургамістра. Быў ён таксама выбраны прысяжным засядацелем.

На просьбу беларускага насельніцтва ў верасні 1944 года была ўтворана ў Бельску-Падляшскім чатырохгадовая Беларуская дзяржаўная гімназія і двухгадовы Беларускі дзяржаўны ліцэй. Першым дырэктарам гімназіі і ліцэя быў назначаны педагог-матэматык Антон Тымінскі, яго заступнікам настаўнік рускай і лацінскай моў Яраслаў Кастыцэвіч. У склад педсавета ўваходзілі таксама Сяргей Багдановіч, Вадзім Бяляўскі, Марыя Казырская, Вера Віцэнтавічова, Іосіф Брыш, Галакціён Нікановіч, Аляксандра Смалеўская, Варвара Цемніцкая, а. Канстанцін Байко, Сяргей Федаровіч, Дымітр Пухнарэвіч, Еўдакія Асташэвіч, Врублеўскі, Зарэмбіна, Аляксей Кісецкі, Ян Тарноўскі. Сакратаркай школы была Марыя Гароднік.

Гімназію і ліцэй памясцілі ў драўляным будынку Беларускай пачатковай школы пры вуліцы 3 Мая 12. Навука адбывалася ў другую змену ў надта прымітыўных умовах. Усё неабходнае пастаўлялі школе ў асноўным бацькі вучняў. Бацькоўскі камітэт даваў матэрыяльную дапамогу таксама настаўнікам і бяднейшым вучням.

І так у навучальным 1944/1945 годзе было ў школе 8 аддзелаў з агульнай колькасцю больш за 200 гімназістаў і ліцэістаў. Так Яраслаў Кастыцэвіч заняўся нарэшце сваім любімым заняткам — беларускім школьніцтвам і настаўніцкай працай. Ім і аддаваў ён усю сваю энергію, сілы і веды. І з другога боку ўсміхнулася Я. Кастыцэвічу шчасце — 11 мая 1945 года вярнуліся нарэшце з Савецкага Саюза яго жонка і дачка. Такімі былі пачаткі Бельскага беларускага ліцэя.

У навучальным 1945/1946 годзе ў гімназіі было ўжо 9 аддзелаў, а ў ліцэі 2 аддзелы з агульнай колькасцю каля 300 навучэнцаў. Памаленьку наладжвалася праца ў школе і надалей вялікай дапамогай для школы быў Бацькоўскі камітэт. Актыўна пачынаюць дзейнічаць маладзёжныя арганізацыі, але добра пастаўленае было і рэлігійнае выхаванне. Урокі пачыналіся і канчаліся малітвай. У нядзелі і святы вучні арганізавана хадзілі ў царкву. Я. Кастыцэвіч таксам прымаў удзел у царкоўных службах і працах бельскага праваслаўнага Дэканальнага камітэта. Развіваўся аматарскі артыстычны рух.

Паявіліся аднак і клопаты. І паявіліся яны адтуль, адкуль іх ніхто не чакаў. Аказалася, што ёсць людзі, якім вельмі не падабаюцца беларускія школы і беларускае школьніцтва. Пасыпаліся даносы, выбіванне акон у школе, зрыванне школьнай шыльды, непрыстойныя надпісы на сценах і іншыя гадасці. Такой крыўды не вытрымаў дырэктар А. Тымінскі і, не дачакаўшы нават канца навучальнага года, выехаў у БССР. Адышлі і некаторыя іншыя настаўнікі. Закончыла свой навучальны год школа пад кіраўніцтвам Я. Кастыцэвіча. Нават у найглыбейшых сваіх думках — думаю я — Я. Кастыцэвіч не браў пад увагу магчымасці выезду ў СССР. Ён хацеў жыць і працаваць тут, сярод сваіх людзей і на карысць свайго народа. А савецкімі парадкамі ён і сямейка яго ўжо нацешыліся ўволю...

Навучальны 1945/1946 год закончыўся такімі вынікамі: вялікую матуру атрымалі 12 вучняў, малую матуру — 80 вучняў.

І раптам у другой палове жніўня 1946 года загадам беластоцкай куратарыі Беларуская гімназія і Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім былі закрыты, зліквідаваны. Нажытую імі маёмасць перадалі Гімназіі і Ліцэю імя Т. Касцюшкі. Просьбы дырэктара і прадстаўнікоў Бацькоўскага камітэта ў беластоцкай куратарыі і ў Міністэрстве адукацыі ў Варшаве вынікаў не далі.

У чым жа справа? Чым не дагадзіла беларускае школьніцтва нашым асветным уладам?

Падобна гэтыя ўлады памылкова зразумелі несумяшчальнасць польска-беларускага паразумення аб рэпатрыяцыі беларусаў у БССР з існаваннем беларускага школьніцтва ў Народнай Польшчы. І на гэтым закончыўся першы этап развіцця беларускага школьніцтва ў Народнай Польшчы. На доўга, на цэлыя тры гады...

Павольна міналі цяжкія і складаныя пасляваенныя гады. Народная ўлада ў Польшчы ўзмацнялася, расла ў сілу. Гэтая ўлада пачала разумець патрэбу дбання пра свой народ хоць там, дзе гэты клопат ёй самой не зашкодзіць. Такой сферай была напэўна асвета, культура, артыстычны рух. Вось народная ўлада і ўзялася за іх. Энергічна прынялася за ліквідацыю непісьменнасці, развіццё нацыянальнай асветы, культуры, артыстычнага руху. І злёгку патранаваць сваім меншасным нацыянальным культурам і школьніцтву. І гэта — трэба аб'ектыўна сказаць — народнай уладзе ўдавалася. Удалося гэтым разам і нам, беларусам. Нарэшце адпаведная ўлада зразумела правільна, што ўпартыя беларусы, якія не выехалі ў час рэпатрыяцыі, Польшчы не лішнія, а іх школьніцтва не перашкода і не канкурэнцыя польскаму. Да таго ж усе тры мінулыя гады і нашы настаўнікі, і бацькі, і беларускія дзеячы напаміналі ўладам аб патрэбе беларускіх школ.

На гэтай спрыяльнай хвалі і паўстаў дакумент: «Zarządzeniem Ministra Oświaty z dnia 20 sierpnia 1949 r. ¹ II Sr-5143/49 została utworzona Państwowa Szkoła Ogólnokształcąca stopnia podstawowego i licealnego z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim».

Так распачалося адраджэнне беларускага школьніцтва, Бельскага беларускага ліцэя і школы, але пачаткі гэтыя былі вельмі няпростымі. Былі страчаны тры гады, страчана з цяжкасцю нажытая Гімназіяй і Ліцэем школьная маёмасць, разышоўся, раз'ехаўся з цяжкасцямі сабраны настаўніцкі калектыў. Не хапала падрыхтаваных настаўнікаў, адпаведных падручнікаў і іншых школьных дапаможнікаў. І не хапала спачатку адпаведнай колькасці вучняў у школе. І не дзіва, што спачатку іх не хапала. Школа была яшчэ ўбогенькая, мала знаная, настаўнікі таксама. І ўвесь час вялася прапаганда супраць беларускіх школ. Напрыклад, што ў беларускай школе трэба больш вучыцца (і гэта была няпраўда). І што пасля Беларускага ліцэя далейшая дарога ў навуку ці працу будзе закрыта. І ніхто не мог пабажыцца, што так не будзе...

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**

www.lozbjn.edu.p



# Аблічча Беларусі

**17 лістапада ў Падляшскай ксёнжніцы адбылася сустрэча з былым паслом Рэчы Паспалітай у Беларусі Лешкам Шарэпкам. Сустрэча была прымеркавана да прамоцыі ягонай кнігі „Oblicza Białorusi", выдадзенай фондам „Суседзі". Аднак кніга аказалася адно рэквізітам, а ў цэнтры ўвагі апынулася — бо і як жа магло быць інакш — сама сучасная Беларусь. Вёў сустрэчу рэдактар Мікола Ваўранюк.**



Злева: Лешак Шарэпка і Мікола Ваўранюк

Сустрэчу адкрыла дырэктар Ксёнжніцы Яланта Гадэк. Адзначыла яна, што ейная ўстанова супрацоўнічае з бібліятэкамі ў Гродне, Вільні і Адэсе. У сваю чаргу Мікола Ваўранюк прадставіў слухачам Лешка Шарэпку, які абавязкі амбасадара Рэчы Паспалітай у Мінску выконваў у 2011-2015 гадах. А раней, у другой палове 1980-х гадоў, штудзіраваў у Інстытуце гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта, так як і сам Мікола Ваўранюк — адгэтуль у іх больш укаранелае знаёмства.

**Старт**

Спадар Шарэпка ў першую чаргу падзякаваў усім тым, хто ўнёс свой уклад у выданне кнігі і арганізацыю яе прамоцыі. Адзначыў ён, што праца амбасадара ў Мінску складаная. Прэзідэнт жа Беларусі заяўляў, што калі Захад яго крытыкуе, гэта абазначае, што беларускія ўлады дзейнічаюць правільна, а калі хваліць, дык трэба насцярожыцца. Лешак Шарэпка прыняў пасаду ў лютым 2011 года — у два месяцы пасля славутых „выбараў", пасля таго, як па свеце пранесліся вобразы пабітых дэманстрантаў і крыві на вуліцах Мінска. Вядучая мінская газета „Беларусь сегодня" менавіта ў лютым 2011 года апублікавала агромністы артыкул пра ўяўны загавор польскіх і нямецкіх спецслужб, які меў прывесці да дзяржаўнага перавароту ў Беларусі — з падрабязным пералікам выдаткавання на гэта грошай. Пасля гэтай „сенсацыяй" ніхто больш не займаўся.

**Дыпламатыя**

Паслу Шарэпку давялося двойчы пакідаць мінскую ўстанову. Спярша беларускія ўлады загадалі паслу Шарэпку пакінуць Мінск, разам з прадстаўніцай Еўрасаюза ў Беларусі. Тады, аднак, у знак салідарнасці, Мінск пакінулі ўсе прадстаўнікі еўрасаюзных краін. Да таго ж у Мінску сітуацыя польскага дыпламатычнага прадстаўніцтва даволі складаная — не мае яно свайго пастаяннага месца, працуе ў арандаваным памяшканні, а гэта ўскладняе працу ўстановы. Так, менавіта, склалася, што ўжо значна раней беларускі бок нагадваў, каб знайсці іншае месца для амбасады. А акурат пасля 2010 года, калі польска-беларускія адносіны рэзка абвастрыліся, беларускі бок рашуча запатрабаваў пакінуць дасюлешняе месца. Спрактыкаваныя дыпламаты такі выклік лічаць катаклізмам.

— Мне давялося двойчы змагацца з пераносінамі амбасады, — сказаў спадар Шарэпка, — і магу пахваліцца, што ў той час пасольства не спыніла працы ні на адзін дзень. І далей гэтая справа не завершана. Пабудова амбасады патрабуе шматлікіх дазволаў, не толькі мясцовых органаў, але і нашага замежнага ведамства. Калі кранаць маё адпраўленне з Мінска, гэта не было так, што мяне прызналі асобай непажаданай (*persona non grata*). Беларускі бок творча развіў дыпламатычныя нормы. Беларускі бок заключыў, што адносіны між Еўрасаюзам зайшлі ў тупік і трэба прыняць нейкія меры каб выкруціцца з гэтай сітуацыі; беларускі бок паслаў мяне і пасла Еўрасаюза на кансультацыі ў нашы краіны. Гэтага яшчэ не бывала, бо на кансультацыі кліча той, хто выслаў дыпламатычнага прадстаўніка, значыць мяне мог паклікаць на кансультацыі польскі бок. А нас паклікалі ў беларускае ведамства і там два чыноўнікі вызначылі нам двое сутак для выезду з Беларусі.

**Малы прыгранічны рух**

Няма яго, бо беларускі бок глядзіць на гэта з пункту гледжання бяспекі, у тым ліку і эканамічнай. Дамову аб малым прыгранічным руху падпісалі з Беларуссю тры краіны, больш-менш у той самы час: Польшча, Літва і Латвія. Зараз Беларусь згадзілася на запуск гэтага пагаднення з Латвіяй. З Латвіі прылягае да беларускай граніцы рэгіён Латгаліі, дзе насельніцтва рускамоўнае, ды таго насельніцтва мала з абодвух бакоў. Усё ж такі і тут адбылася бюракратычная валакіта, дзе трэба было афармляць дадатковыя дакументы для пераходу граніцы. Беларускі бок тлумачыў сваю адмову для малога прыгранічнага руху з Польшчай неспрыяльнымі палітычнымі абставінамі. Калі палітычнае напружанне аслабла, сталі тлумачыць, што перашкаджае неадпаведная памежная інфраструктура, хаця гэта не так, бо пагранпераходы былі мадэрнізаваны, рыхтуючы іх да буйнейшага руху. Да таго ж у польскіх медыях выносілася справа пакупак у польскіх гандлёвых цэнтрах, а гэта беларускім уладам не на руку, бо Беларусь мае клопат з валютай, а гэтым шляхам валюта з Беларусі выцякала б яшчэ больш. Там тавары даражэйшыя, чым у Польшчы, а дзеецца так таму, што там няма канкурэнцыі; рынак належыць некалькім буйным суб'ектам, якія не допускаюць вонкавай канкурэнцыі, таму і цэны там высокія.

**Помнік Сталіну**

У Беларусі захаваўся помнік Сталіну, у Свіслачы, які ў час вайны ляжаў недзе на гарышчы нейкай аборы; зноў паставілі яго пад Новы 1999 год у Алеі герояў, дзе ўшанаваны як героі Студзеньскага паўстання 1863 года, так і героі Другой сусветнай вайны — людзі розных накірункаў дзейнасці. Гэта быў час адыходу Ельцына і рашучай змены палітычнага напрамку ў вярхах на ўсёй постсавецкай прасторы. Адзін з мясцовых грамадскіх актывістаў дайшоў да высновы, што справы вяртаюцца ў старое рэчышча і трэба выведаць, як паставяцца да гэтага людзі. А ў Беларусі паставіліся да гэтага абыякава, таму магчыма было пабудаваць у Беларусі і Лінію Сталіна.

— Там таксама пастаўлены помнік Сталіну, — дадаў спадар Шарэпка. — Але гэты аб'ект быў пастаўлены не надта згодна з законам. Там мела быць узведзена царква і той помнік стаяў акурат у тым месцы, дзе мела быць царква. І тут узніклі пытанні, што рабіць: ці той помнік выкінуць, ці перамясціць, ці будаваць там царкву...

**Пераемнасць улады**

Здаецца, што Лукашэнка рыхтуе на пераемніка ўлады ў Беларусі свайго наймалодшага сына Колю. Быў аднойчы прыехаў у Беларусь адзін з брытанскіх спецыялістаў па піяру і ён запрапанаваў Лукашэнку, каб той паказваўся на публіцы разам менавіта з Колем; мэтай гэтага заходу мела стаць ацяпленне выгляду „апошняга дыктатара Еўропы". І стаў ён паказвацца з малым сынком, вядома, без маці; так па сутнасці нават дакладна невядома, хто з'яўляецца ягонай маці — гэта рарытэтны выпадак, бо наогул добра вядома хто маці дзіцяці, калі наконт бацькі ўпэўненасці менш... Але Коля падрос і сітуацыя крышку змянілася, і магчыма, што больш падыходзіць на пасаду пераемніка старэйшы сын — Віктар Лукашэнка, які фактычна ведае сілавымі структурамі...

— Пра маці Колі таксама вядома, — дадаў спадар Шарэпка, — толькі гэта публічна не абнародавана; гэта Ірына Абельская, былая асабістая лекар прэзідэнта, зараз загадчыца ўрадавай клінікі ў Мінску — гэта тайна палішынеля. А як далей будуць развівацца падзеі? Па ўсім відаць, што Лукашэнка трактуе Беларусь як сваю ўласнасць і складана дапусціць думку, што ён адрачэцца ад яе. Мяркую, што ўсё ідзе ў тым напрамку, каб гарантаваць дынастычную ўладу. Каторы сын будзе пераемцам? Можа і Віктар, але па-мойму, калі б ён фактычна меў прыняць гэтую ролю, то павінен больш паказвацца публічна — а пра яго ў сродках масавай інфармацыі ціха. Так ці інакш, здаецца, што падзеі ў беларускіх вярхах ідуць азербайджанскім следам.

**Візіты ў вярхах**

Апошні згустак польска-беларускіх кантактаў з'яўляецца, бадай, вынікам пэўнай палітычнай засухі, дзе трэба апавясціць нашы паспяховыя замежныя кантакты. Візіт віцэ-прэм'ера Маравецкага адбыўся ў рамках працы міжурадавай польска-беларускай гаспадарчай камісіі, якая павінна сустракацца штогод. Апошняя такая сустрэча адбылася ў снежні 2014 года ў Варшаве; чарговая сустрэча мела адбыцца ў 2015 годзе, але на той час у абедзвюх краінах адбываліся выбары. Візіт міністра Вашчыкоўскага быў рэвізітам міністру Макею, які быў у Варшаве ў жніўні 2014 года. Адносна візіту віцэ-прэм'ера Маравецкага — беларускі бок прапанаваў прыватызацыю нейкага беларускага банка, аднак у Беларусі дзейнічае адзін польскі банк, які згортвае там сваю прысутнасць. А прадпрыемстваў стратэгічнага характару прэзідэнт Лукашэнка пазбывацца не хоча, каб не аслабіць свайго кантролю над краінай. Продаж газавых і нафтавых магістралей трэба палічыць вытанчаным ходам Лукашэнкі, бо прадаў ён, па сутнасці, руіну, у якую неабходна ўжо было шмат інвеставаць каб тыя магістралі дзейнічалі. І цяпер газ ідзе па тэрыторыі Беларусі; а вось Украіна гэтага не зрабіла і Расія абмежавала падачу газу цераз Украіну на дзве трэці.

**Без віз**

Гаварылася ў Беларусі пра лібералізацыю памежнага руху, у тым ліку і на захад. Да гэтага часу беларускі турыстычны бізнес базіраваў на расейцах. Але цяпер у Расіі стала тужэй з грашамі і там сталі лічыць капейкі і менш ездзіць у замежжа, у тым ліку і ў Беларусь. Тады ў Беларусі сталі думаць, як заахвоціць турыстаў з Захаду да наведвання Беларусі — каб яны везлі туды валюту.

**Армія**

Пра характар арміі не так сведчыць яе абмундзіраванне ці ўстаўная мова. Галоўным крытэрыем вызначэння арміі з'яўляюцца яе аператыўныя планы. А тут планы простыя: беларуская армія мае быць авангардам расійскай арміі, а ў выпадку канфлікту на заходнім напрамку — прымаць удзел у адблакаванні Калінінградскай акругі. А гэта задачы, здаецца, не ў інтарэсе Беларусі. У Беларусі няма вытворчасці боепрыпасаў, усе боепрыпасы ўвозяцца з Расіі. Хаця ў Беларусі шмат узбраення, напрыклад, самалётаў, то яны не задзейнічаюць без расійскай амуніцыі. Найважнейшыя беларускія абарончыя сегменты — зенітная абарона і сухапутнае войска — з'яўляюцца часткай расійскіх ваенных груповак. Сістэма зенітнай абароны Беларусі зінтэгравана з расійскай. І тут няма сумненняў адносна вызначанай беларускім узброеным сілам ролі.

**Рэлятыўны дабрабыт**

У насельніцтва Беларусі найважнейшыя дзве знакавыя падзеі: Другая сусветная вайна і роспуск Савецкага Саюза. І сваю цяперашнюю сітуацыю прымяркоўваюць там да гэтых арыенціраў. І ў гэтым ракурсе жыхары Беларусі адчуваюць прагрэс. Да таго ж сваю сітуацыю прымяркоўваюць да абставін украінцаў і расіян; і ў гэтым ракурсе ў беларусаў цалкам прыстойна. Аднак зараз назіраецца ў Беларусі рэцэсія, два гады запар; эканоміка Беларусі згортваецца, яна, паводле экспертаў, аджылася. Лукашэнка быў запусціў на поўны ход усялякую вытворчасць, рупячыся аднаchасна пра рынкі збыту для яе. А тым рынкам была Расія. Пакуль там быў петрадоларавы бум, тады расіяне куплялі ў Беларусі камбайны ці трактары дзеля абнаўлення свайго машыннага парку; і расійскі рынак насыціўся, цяпер туды складана прабіцца.

**Дэмаграфія**

У дэмаграфічным плане адмірае беларуская вёска, насельніцтва перабіраецца з вёсак у гарады. Цягам дваццаці пяці гадоў незалежнасці лік насельніцтва Беларусі скараціўся недзе на мільён, а ў той жа час лік гарадскога насельніцтва на мільён вырас — значыць лік беларускага вясковага насельніцтва скараціўся на два мільёны. Цяпер вясковае насельніцтва Беларусі складае каля 28% ад усяго насельніцтва краіны — менш чым у Польшчы.

**Заключэнне**

Беларусь гэта ўсё *terra incognita*. Яна тут як за граніцай, а здаецца маячыць у іншай рэчаіснасці. Дзе яшчэ ў Еўропе абкладваецца падаткамі беспрацоўных або забараняецца рабочым звальняцца з працы? Дзе рэгулярна дэнамінуецца і дэвальвуецца нацыянальную валюту? У якой еўрапейскай дзяржаве некалькі гадоў да прэзідэнцкіх выбараў можна з дакладнасцю да лічаных працэнтаў прадбачыць іх вынік і пераможцу? Дзе яшчэ магчыма, каб апазіцыйны палітык раптам прапаў, быццам расплыўся ў паветры? Дзе легальныя смяротныя прысуды з расстрэлам, а целы хаваюцца тайком? Дзе магчымае пакаранне за ўжыванне дзяржаўнай мовы? Толькі ў Беларусі непаўналетні сын правадыра можа прымаць вайсковы парад...

* * *

Дадам ад сябе, што гэта здаецца быць цалкам лагічнай практыкай — калі гэтаму войску прадбачана быць адно свайго роду штрафбатам на перадавой. Але ці толькі войску?..

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

1 ☞працяг

# Беларускасць зніталвалася з кашубскасцю

сябрам Кашубска-паморскага згуртавання ў Ястарні, якое лічыцца даволі герметычнай арганізацыяй. Усё такі праз тых жа «герметычных кашубаў» Міраслаў Куклік лічыць сябе акцэптаваным.

— Запрашаюць мяне на розныя рыбацкія сустрэчы, — кажа Куклік. — Я, як ужо сказаў, займаўся тэмай кашубскага традыцыйнага рыбалоўства, як асоба, якая ніколі не сутыкалася з гэтай справай. Пры этнаграфічных даследаваннях таксама вывучыў кашубскую мову, якой цяпер пэўна лепш карыстаюся чым роднай беларускай. Аднак разам з гадамі прыходзіць пытанне пра ўласную тоеснасць. Не ведаю хто я?! Хаця па прыродзе беларус — спакойны, паслухмяны... Хачу быць пахаваны на могільніку ў Крынках.

**ЗАСТАЦЦА БЕЛАРУСАМ**

Хаця жыла ў Хільмонах толькі тры гады, дзе па сёння жывуць яе сваякі, якіх стараецца адведаць прынамсі раз у год. Ірэна Саецкая з роднай вёскі эмігравала пад Элк дзе ейныя бацькі працавалі ў мясцовым ПГРы. Тут першы раз сустрэлася з непрыхільнасцю мясцовых да сваёй моўнай і культурай адрознасці. Падпаленае паліто яе брата ў школе за «кацапскасць» выклікала ў сям'і неспакой да такой ступені, што маці перастала звяртацца да дзяцей на роднай беларускай мове. Толькі навука ў Гданьску на расійскай філалогіі памагла ёй пазбыцца комплексаў ад свайго паходжання. Сёння Ірэна Саецкая працуе дырэктаркай Комплексу школ у Гелю. Тут таксама аднайшлася са сваім земляком Міраславам Куклікам, з якім супольна арганізуюць сёлета конкурс кашубскай мовы для вучняў яе школьнай установы.

— Ад трох гадоў у нашай школе вядуцца заняткі па кашубскай мове, — кажа Ірэна Саецкая. — Для мяне гэта такое натуральнае, што дзеці вучацца, хочуць пазнаваць сваю першую хатнюю мову. Нават заўважаю падабенства з кашубскай да маёй беларускай. Мой муж таксама не паляк. Яго бацька — немец, маці — радавітая кашубка. Ён мае падобныя ўспаміны з дзіцячых гадоў, дзе крыху хаваліся з той сваёй моўнай адметнасцю.

Ірэна Саецкая памятае ўсе цэрквы ў ваколіцы Дубровы-Беластоцкай. Помніць адпусты, царкоўныя фэсты, якія адзначае разам з сям'ёю. Яе ўжо дваццацігадовы сын корпаецца ў гісторыі Падляшша і моўных складанасцях. Нават успамінаючы жудасную гісторыю падпаленага паліто, з усмешкай аналізуе асаблівасць таго слова, якое нагадвае дзяцінства і мову бацькоў.

— Ва ўсіх перапісах насельніцтва заўсёды называю сябе беларускай, — дадае на канец.

Беларусы Сакольшчыны на Кашубах пазналі свайго партнёра і рэпрэзентаваныя ім каштоўнасці. Дзякуючы таму ўзбагаціліся самі і спрычыніліся да развіцця кашубскасці, пры чым не адракліся сваіх каранёў. Карацей кажучы, гэта людзі вялікай культурнай уражлівасці.

❖Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ




■ Надпісы па-кашубску ў вёсцы Станіслава Клімовіча ў Хмельне




**http://by.theatre-museum.by**

Калі нехта глыбока цікавіцца тэатральнай і музычнай гісторыяй, то, пэўна, для яго будзе даволі лёгка распавесці пра норавы і захапленні людзей, якія жылі на той ці іншай тэрыторыі ў мінулыя дзесяцігоддзі і стагоддзі. Аднак, калі казаць па шчырасці, такіх спецыялістаў не вельмі многа сярод нас. Таму, каб атрымаць хоць нейкія веды ў гэтай галіне варта наведацца ў адпаведны музей.

З пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Беларусі існуе Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Каб з ім бліжэй пазнаёміцца, зусім неабавязкова ехаць у Менск, бо дастаткова зайсці на сайт гэтай культурніцкай установы. Месціцца ён па адрасе **http://by.theatre-museum.by**.

Віртуальнае прадстаўніцтва музея мае даволі прывабнае выяўленне. На светла-ружовым фоне ўверсе знаходзіцца невялікі малюнак трох музыкаў, якія іграюць на гуслях, скрыпцы і лютні. Побач — назва сайта і чысло календара, унізе — выйсці на рубрыкі сайта, а яшчэ ніжэй ідуць карцінкі, якія змяняюцца па чарзе і адлюстроўваюць тэматыку музея.

Згодна інфармацыі, пададзенай у рубрыцы „Пра музей", ён быў створаны 23 сакавіка 1990 года. „Фонд музея штогод папаўняецца новымі і цікавымі рэчамі. Напрыклад, у 2010 годзе ў фонды трапіў кантрабас (басэтля) XVIII стагоддзя работы італьянскага майстра (магчыма П'етра Антоніа Ландольфі), які перадала ў дар Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі", — распавядаюць уладальнікі сайта, не зважаючы на тое, што на календары цяпер канец 2016 года. Там жа адзначаецца, што агульная плошча экспазіцыі складае 362 квадратных метраў. Музей мае 11 экспазіцыйных і адну выставачную залу. У рубрыцы таксама паведамляецца, што зараз музей не самастойная адзінка — са снежня 2014 года ён перайшоў у склад Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь у якасці філіяла.

Адной з найбольш цікавых падрубрык сайта варта прызнаць „Навіны", якая знаходзіцца ў рубрыцы „Падзеі". Абнаўляецца яна даволі часта, калі ўлічыць, што сайт не навінны, а музейны, і падзеі там не могуць адбывацца штодня. Апошняя навіна датуецца канцом сёлетняга кастрычніка і тычыцца запрашэння на танцавальныя вечарыны ў залах музея. „Кожны аўторак чакаем аматараў беларускіх танцаў, беларускай культуры і музыкі. Вы можаце ўвогуле не ўмець танчыць, галоўнае — каб было жаданне!" — запэўніваюць адмысловцы ў музычнай і танцавальнай спадчыне беларусаў.

Аб выстаўках і экспазіцыях ходзіць у адпаведных рубрыках, але больш поўна пра зборы музея распавядаецца ў „Калекцыі". „Усяго ў структуры фондаў налічваецца 10 калекцый: „Музычныя інструменты", „Нотныя рукапісы", „Дакументальныя матэрыялы" (асабістыя дакументы, рэжысёрскія распрацоўкі, тэксты роляў з паметкамі выканаўцаў), „Фота, рэпрадукцыі і негатывы", „Афішы і праграмы", „Выяўленчыя матэрыялы" (эскізы дэкарацый і касцюмаў, макеты дэкарацый, тэатральныя лялькі, мастацкія партрэты дзеячаў тэатра і музычнай культуры, скульптурныя выявы, эцюды і замалёўкі беларускіх мастакоў сцэнографаў), „Аўдыёзапісы", „Відэазапісы" (канцэртаў, спектакляў), „Рэдкія друкаваныя выданні", „Мемарыяльныя рэчы" (асабістыя рэчы дзеячаў беларускай тэатральнай і музычнай культуры). Найбольш значная калекцыя — „Выяўленчае мастацтва", — адзначаецца там.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

**ДАТА З КАЛЕНДАРА**

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА

Эмігранцкі шлях мовазнаўца



# 125 гадоў з дня нараджэння Янкі Станкевіча

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, мовазнавец, гісторык, перакладнік, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі Янка Станкевіч нарадзіўся 26 лістапада 1891 г. у вёсцы Арляняты (цяперашні Смаргонскі раён). Паходзіў з роду, які даў беларускаму руху шэраг выдатных асоб, ён родны брат Адама Станкевіча. У Першую сусветную вайну быў прызваны ў расейскае войска. Браў чынны ўдзел у беларускім руху — дэлегат з'езда нацыянальных арганізацый у Менску ў сакавіку 1917 г., з'езда настаўнікаў Менскай губерні ў траўні таго ж года. Са снежня 1917 г. у Вільні, адзін са стваральнікаў Беларускага навуковага таварыства, у студзені 1918 г. абраны ў склад Віленскай беларускай рады, удзельнічаў у сесіі Рады БНР у сакавіку 1918 г. у Менску. У лістападзе 1918 г. кааптаваны ў склад Літоўскай Тарыбы. Пасля прыходу ў Вільню Чырвонай Арміі працаваў у літаратурна-выдавецкім аддзеле Наркамасветы Літоўска-Беларускай ССР, загадваў беларускім выдавецтвам „Веда". У час польска-савецкай вайны 1919-1920 гг. — сябра Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны, прэзідыума Беларускай цэнтральнай школьнай рады.

Янка Станкевіч скончыў у 1921 г. Віленскую беларускую гімназію, у 1926 г. — Карлаў універсітэт у Празе. Здабыў там ступень доктара славянскай філалогіі і гісторыі. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы ў Варшаўскім універсітэце і Універсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні, у ім ажно да 1940 г. Друкаваўся ў часопісе „Крывіч", розных заходнебеларускіх выданнях.

Ян Станкевіч у 1928-1930 гг. быў паслом Сейма Польшчы. Як палітык прыхільна ставіўся да польска-беларускага збліжэння, за што яго не раз крытыкавалі беларускія групоўкі. У 1940 г. Станкевіч выехаў у Варшаву, дзе далучыўся да дзейнасці Беларускага камітэта. Актыўна супрацоўнічаў з Вацлавам Іваноўскім, наладзіў кантакты з польскім антыфашысцкім падполлем, стварыў канспіратыўную групу пад назвай Партыя беларускіх нацыяналістаў (ПБН). Стратэгічнай мэтай гэтай дзейнасці была адбудова беларускай дзяржаўнасці з апорай на Польшчу.

З восені 1941 г. Ян Станкевіч жыў у Менску, кароткі час працаваў у школьным аддзеле Менскай управы. Станкевіч быў сябрам Беларускай народнай самапомачы, Беларускай незалежніцкай партыі, навуковага аддзела Беларускай цэнтральнай рады, адным з заснавальнікаў Беларускага навуковага таварыства. Выкладаў гісторыю Беларусі ў падафіцэрскай школе паліцыі ў Менску. З 1944 г. у эміграцыі. У Нямеччыне аднавіў дзейнасць Беларускага навуковага таварыства. У 1949 г. пераехаў у ЗША, дзе жыў і працаваў да канца сваіх дзён. Актыўна ўдзельнічаў у працы Беларуска-амерыканскага задзіночання, выдаваў часопісы „Веда", „Незалежнік", супрацоўнічаў з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва і ягоным выданнем „Запісы", часопісам „Сяўбіт", мюнхенскай газетай „Бацькаўшчына", газетай „Беларус" (Нью-Йорк) і іншымі. Разам са Станіславам Станкевічам стаў заснавальнікам Вялікалітоўскага фонду імя Льва Сапегі. Янка Станкевіч аўтар унікальных прац па беларускай гісторыі, гістарыяграфіі, мовазнаўстве. Асаблівае месца сярод іх займае падрыхтаваны „Беларуска-расейскі (Вялікалітоўска-расейскі) слоўнік", выдадзены ў 1990 годзе.

Памёр Янка Станкевіч 16 жніўня 1976 г., пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (ЗША).

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Абнаўленне шчытоўскай гістарычнай памяткі

**Ад стагоддзяў сuправаджалі вандроўцаў, стоячы пры дарогах. Ведалі пра іх добра жыхары Падляшша, якіх мелі яны ахоўваць ад розных бед. Мова пра фігуркі, скульптуры і каплічкі, прысвечаныя Яну Непамуцкаму з Прагі. Адна з такіх скульптур стаяла да гэтага года пры царкве Усячэння галавы Іаана Хрысціцеля ў Шчытах-Дзенцялове.**

Той барадаты каталіцкі святы на нашых памежных тэрыторыях меў на галаве замiж каталіцкага берэта праваслаўны клабук, у руках трымаў пальмавую галінку і крыж. Сёння памалу чахне памяць пра фігуры святога Яна Непамуцкага. Нішчэюць з году ў год, не ахоўваныя і не абнаўляныя. Запар адыходзіць у нябыт памяць пра фрагмент гісторыі нашага рэгіёна. Знішчаны помнік у Шчытах, дзякуючы вонкавай ініцыятыве, атрымлівае ўрэшце шанс на вяртанне да свайго ранейшага характа.

Кім быў Ян Непамуцкі? Нарадзіўся каля 1350 года ў Чэхіі ў сям'і чыноўніка. Пасля завяршэння тэалагічных штудыяў у Празе і Падуі і атрымання доктарскага звання служыў у пражскіх парафіях. Тадышні кароль Вацлаў IV, які цаніў яго пропаведзі, запрашаў яго час ад часу ў замкавы касцёл.

Як падаюць хронікі, той запальчывы ўладар разгульваў па начах у непрыстойнай кампаніі. Ян Непамуцкі быў спаведальнікам каралевы Сафіі. Калі аднойчы не згадзіўся выявіць каралю тайны споведзі каралевы, быў зняволены ў турму. Пазней быў катаваны, у выніку чаго памёр. 20 сакавіка 1393 года цела Яна Непамуцкага было кінута ў Влтаву з Карлавага моста. Аднак жыхары Прагі вылавілі яго і пахавалі ў кафедры св. Віта на Градчанах. Шанаванне Яна чэшскімі каталікамі як святога і мучаніка пачалося яшчэ ў XV стагоддзі. Да ліку святых ён быў прылічаны ў 1729 г. У канцы XVII стагоддзя культ Яна Непамуцкага даходзіць да Рэчы Паспалітай. Першыя яго фігуры паявіліся на Падляшшы з пачаткам XVIII стагоддзя. Іх фундатарамі былі галоўным чынам магнаты: Сапегі ў Боцьках, Асалінскія ў Цеханоўцы ды Браніцкія ў Беластоку і Шчытах-Дзенцялове.

У Беластоку фігура святога знаходзіцца пры Святаянскім мосце, па якім праходзіў Бельскі тракт.

Каштоўнымі мастацкімі якасцямі характарызуецца разьба святога Яна Непамуцкага з XVIII стагоддзя ў Боцьках. Выканаў яе праўдападобна Ян Рэдлер, аўтар шматлікіх скульптур у палацава-паркавым комплексе Браніцкіх у Беластоку.



Іншая каменная скульптура Яна Непамуцкага, выкананая гэтым аўтарам, стала ў Шчытах. Цяперашнюю шчытоўскую царкву фундаваў у 1785 годзе Ян Вянгерскі, камергер Браніцкага, уладальнік шчытоўскай маёмасці. У колішнім уніяцкім храме знаходзяцца абразы, м.інш. «Мадонна з дзіцяткам» прыдворнага мастака Аўгуста Мірыса.

Мясцовае насельніцтва зжылося з гэтай скульптурай, а некаторыя жыхары мяркуюць, што прадстаўляе яна быццам Іаана Хрысціцеля, патрона царквы. Мясцовая традыцыя падае, а пацвярджае яе здымак з 1915 года, што помнік Яна Непамуцкага раней стаяў пры дарозе ў канцы вёскі, каля прыходскіх могілак, пры іх паўночна-заходнім вугле. Падаецца, што пасля скасавання уніі, калі царква перайшла ў праваслаўе, бельскія каталікі хацелі забраць шчытоўскі помнік. У выніку сутычкі паміж жыхарамі абедзвюх мясцовасцей святы страціў руку і крыж, але застаўся ў Шчытах. Гэтыя падзеі не пацверджаны гістарычнымі крыніцамі, хаця вядома, што ў XIX стагоддзі бельскія католікі звярталіся з просьбай перадаць ім фігуру святога. Скульптура магла быць пашкоджана таксама ў міжваенны перыяд, калі пераносілі яе з даўняга месца на новае.

Як згадвалі некаторыя жыхары Шчытоў, калісь адзін мясцовы мужчына заўсёды на Галавасека (прыходскае свята 11 верасня) сам аднаўляў тую фігуру вапнам. Рабіў гэта заўсёды — калі не напіўся.

Паводле інспектар Люцыны Сталёнчык такія працэдуры бялення вапнам прымяняліся ў XVIII стагоддзі у дачыненні да пясчанікавай разьбы.

Стаячая перад шчытоўскай царквой фігура святога Яна Непамуцкага дзесяцігоддзямі занядбоўвалася. Жыхары вёскі не маглі прыняць супольнага рашэння адносна яе далейшага лёсу, таму нельга было пачынаць захаваўчых дзеянняў. Скульптура з'яўляецца ўласнасцю шчытоўскага праваслаўнага прыхода, які, паводле законаў, павінен адпаведна ўтрымоўваць аб'ект, а той патрабуе комплекснай кансервацыі.

Справай заняўся Войцех Кананчук, які некалькі гадоў таму заснаваў фонд імя Яна Валента Вянгерскага ў Шчытах. Фонд быў устаноўлены дзеля абнаўлення гэтага памятнага аб'екта, аднаго з найкаштоўнейшых у Арлянскай гміне. Фонд звяртаўся ў арлянскую Гмінную ўправу за дафінансаваннем рэнавацыі гістарычнай скульптуры св. Яна Непамуцкага са Шчытоў. Ацэначны кошт рэнавацыі гэта каля 135 тысяч злотаў. Прыход, як уладальнік аб'екта, перадаў фонду права заняцца ўсімі пытаннямі звязанымі з рэнавацыяй. Падляшскі кансерватар гістарычных помнікаў даў дазвол на захаваўчыя работы.

Справу датацыі разглядала арлянская гмінная рада. У жніўні радныя прызначылі на датацыю 18 тысяч злотаў.

Варта адзначыць, што падобная скульптура святога Яна Непамуцкага тры гады таму была аднаўлена ў Варшаве на плошчы Трох Крыжоў (толькі ачыстка коштам у 54 тыс. зл.).

Каплічак, прысвечаных Яну Непамуцкаму, ды яго статуй у XIX і пачатку XX стагоддзяў было на Падляшшы вельмі многа. Гэты святы быў заступнікам не толькі вандроўцаў, быў таксама апекуном сямейнага жыцця, хадайнікам добрай славы і гонару, ахоўваючым перад паклёпам і ганьбаваннем. Паводле народных уяўленняў мог выклікаць дождж, хаця засцерагаў перад паводкай (таму яго скульптуры і каплічкі стаўлялі побач рэчак і пры мастах). У міжваенны перыяд фігуры святога Яна Непамуцкага сталі замяняць гіпсавымі фігурамі Маткі Боскай; ацалелі толькі лічаныя. Нямнога ёсць і жывапісных выяў святога і ягоных драўляных фігур у алтарах касцёлаў. Нават сваё свята, якое адзначалася 16 мая, «адступіў» Андрэю Баболі. Знік з натуральнага і культурнага ландшафту Падляшша. Выглядае, што святому ў Шчытах-Дзенцялове пашчасціцца.

**Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Адгаданка

1. белы грыб з бору, 2. дапамога, падтрымка, база, фундамент, 3. вандроўнік, 4. колішняя паштовая станцыя, дзе мянялі коней, 5. мора або выспа па поўдзень ад Філіпінскіх астравоў, 6. паказальны прыклад, 7. старажытнаегіпецкі ўладар, 8. моўная назоўная адзінка, частка сказа, 9. заслужаны працаўнік або салдат.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |
| | 1 | 2 | | | | | 3 | |
| | | | | 4 | 5 | | | |
| | | | 6 | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | 7 | | 8 | | | 9 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Брод, доўг, жнец, жыд, ненец, ода, сад, сені, цаца, цяга.

Рашэнне: **Асенні дождж дробна сеецца ды доўга цягнецца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 27.11 — 03.12

**(22.03. — 20.04.)** Зоркі раяць ставіць перад сабой мэты і метадычна іх дабівацца. Можаш атрымаць поспех, калі будзеш асэнсавана імкнуцца да нечага. Палепшацца адносіны з людзьмі, якіх ты паважаеш і да меркавання якіх заўсёды прыслухоўваешся. Другая палова тыдня неспрыяльная для далёкіх паездак і ўрэгулявання юрыдычных праблем. Не прадпрымай учынкаў у абыход законам. Звярні асаблівую ўвагу на захаванне рэпутацыі.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымы крызіс у асабістым жыцці. Твае ўзаемаадносіны з каханым чалавекам могуць страціць пяшчоту і тактоўнасць і пяройдуць выключна ў плоскасць інстынктаў. Гэта можа давесці аж да разрыву адносін. Новыя рамантычныя сувязі на гэтым тыдні магчымыя, але будуць дастаткова канфліктнымі і не пратрымаюцца доўгі час. Будзеш схільны да рэзкіх і неабачлівых паводзін. Дзеці могуць паводзіць сябе агрэсіўна, капрызна. Але час падыходзіць для падарожжаў і навучання.

**(22.05. — 22.06.)** Для Блізнят, якія знаходзяцца ў шлюбе, гэты тыдзень стане сапраўдным выпрабаваннем на трываласць. Любы чалавек можа ўсяляк расхістаць ваш саюз. Ты будзеш пазбаўлены якой-небудзь ініцыятывы. Не ладзь рамонту ў кватэры, перастаноўкі мэблі або генеральнай уборкі, у якую ўключыш усіх членаў сям'і — гэта можа толькі пагоршыць канфлікт. Але спрыяльны час для афармлення іпатэчнага крэдыту на куплю кватэры або зямельнага ўчастка.

**(23.06. — 23.07.)** Надай асаблівую ўвагу свайму здароўю. Твой энергетычны патэнцыял можа аслабнуць, будзеш лёгкай здабычай вірусных інфекцый. Узмацні меры прафілактыкі. Не грэбуй часнаком, мёдам, гарбатай з малінавым варэннем або імбірам. Узровень працаздольнасці паніжаны, не перанапружвайся на працы. Эканомна расходуй свае сілы. Гарманічна ў шлюбных адносінах. Будзе нейкая ўрачыстасць.

**(24.07. — 23.08.)** Урэгулюй распарадак дня. Складзі сабе аптымальны графік. Адлюструй у ім час для прыёму ежы, сну. Цяпер зможаш добра выпрацаваць у сабе патрэбныя звычкі і адмовіцца ад шкодных. Калі ты азартны чалавек, усё ж няпроста будзе справіцца з цягай да гульні на грошы.

**(24.08. — 23.09.)** Зможаш раскрыць у поўнай меры свае таленты. Тыдзень стане росквітам тваіх творчых здольнасцей. Лепш за ўсё будзеш адчуваць сябе ў свабоднай абстаноўцы, дзе можна рабіць усё, што захочацца. Аднак дома атмасфера стане напружанай, будуць прад'яўляць прэтэнзіі з нагоды якіх-небудзь нявыкананых абавязкаў. Не справакуй канфлікту ў сям'і.

**(24.09. — 23.10.)** 29.11. заззяеш і здабудзеш прызнанне. Чакае шмат кантактаў са знаёмымі, аднак наўрад ці будуць яны прыемнымі і карыснымі. Могуць цябе ўцягнуць у чужыя справы. Паспрабуй пазбягаць падобных сітуацый. Не варта цяпер заводзіць новых знаёмстваў, асабліва з дзіўнымі і скрытнымі людзьмі. Лепш правесці час у коле сям'і. Праяві клопат пра старэйшых сваякоў. Добраўпарадкуй свой дом.

**(24.10. — 22.11.)** Можа паўстаць нямала падстаў для турботы адносна захаванасці сваёй рухомай маёмасці. Не выключаны паломкі бытавой тэхнікі. Але ўдалы час для паездак і новых знаёмстваў. Зносіны з людзьмі ва ўсіх сэнсах прыемныя. Зможаш прымірыцца з суседзямі, сваякамі, далёкімі знаёмымі. Паспяхова складзецца вучоба.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш схільны да неабдуманых учынкаў, што неспрыяльна адаб'ецца перш за ўсё на адносінах закаханых пар. Трымай сябе ў рамках прыстойнасці. Сямейным Стральцам нялёгка будзе справіцца з паводзінамі дзяцей. Зрабі што-небудзь у хаце, вырашай бытавыя пытанні, дапамажы бацькам, паклапаціся пра родных. На выхадныя заплануй добрую гульню.

**(23.12. — 20.01.)** 29-30.11. не ўлезь у кабалу па ўласным жаданні. Зможаш зірнуць на сябе збоку. Магчыма, раней ты сябе недаацэньваў — настаў час для змен. Пачні са свайго знешняга выгляду: памяняй стыль, манеру паводзін. Памятай, што няма мяжы дасканаласці! Ты з гадамі становішся больш цікавым і прывабным. Але таемныя нядобразычліўцы паспрабуюць зганьбаваць тваю рэпутацыю. Праігнаруй гэты негатыў.

**(21.01. — 19.02.)** 28-30.11. добрая нагода, каб узяцца за тое, за што ніколі не браўся. 29-30.11. не рызыкуй у фінансах. Твае сяброўскія адносіны могуць перажыць шэраг выпрабаванняў, трэба будзе пераацаніць адносіны. Можа ўсплыць інфармацыя аб мінулых невядомых табе падзеях. Тыдзень важны для духоўных практык, вывучэння загадак, перапрацоўкі комплексаў.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш прадбачваць ход падзей. Выдатны час для зносін у кампаніі. Узрасце роля інтэрнэту ў тваім жыцці. Але не самыя спрыяльныя дні для шлюбных адносін. Можа высветліцца, што ў вас у пары адрозныя ўяўленні пра найбольш прыярытэтныя мэты і задачы ў жыцці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (63)

Я не магла скеміць той адкрытасці, з якой у Невіры гаварылі пра магію і чары. Магчыма, гэта быў слоўны абярэг, спосаб, каб не падпасці пад іх уладу. Не менш здзіўляў звышчасовы менталітэт туземцаў. Тыя самыя сучасныя, адукаваныя людзі са смартфонам у руцэ, у адзін момант маглі пераключыцца на старажытны лад жыцця продкаў, стаць ляснымі збіральнікамі, браканьерамі, землярobамі. Таксама свайго пачуцця бяспечнасці не атаясамлівалі з сацыяльнай палітыкай дзяржавы ці ядзернай зброяй. Усё залежала ад здольнасцей чалавека і падтрымкі ў сям'і. Самым надзейным сховам, як тысячу год назад, явіўся лес і недаступныя астравы сярод балот, з засакрэчанай дарогай, вядомай толькі мясцовым. Здавалася, свет прыроды тут незнішчальны. Апошнюю ілюзію палешукі гадавалі на ўласны ўжытак, дзеля святога спакою.

— Ці ёсць яшчэ такія астравы, дзе можна ўцячы ад ворага? — пытаю ў Раісы Крат. Маё пытанне выклікае клопат.

— Можа дзесьці і ёсць, — чую ў адказ, — хоць, пасля меліярацыі балоты перасохлі, а вада адплыла каналамі ў Беларусь. Калі б якая бяда, усё згарыць, пойдзе з дымам...

Справа пачуцця бяспечнасці апошнім часам зганяе сон з вачэй жыхароў Невіра. Якраз, калі мы стаялі на школьным пляцы і *балакалі* сабе пра магію, ад боку Беларусі наляцеў вайсковы самалёт. Ён праляцеў праз вёску, павярнуў на рэчку, зрабіў вялікі круг і з гукам вяртаўся ў той сам бок, адкуль з'явіўся.

— Ужо чарговы раз гэты самалёт налятае на сяло, — кажа, знерваваная спадарыня Крат, — першы раз з'явіўся 22 жніўня, мы якраз рыхтаваліся да Свята Незалежнасці. Спецыяльна, каб сапсаваць людзям настрой. Хацелі паздзекавацца, даказаць, што ніхто нас бараніць не будзе! Бо ж у іншай дзяржаве іх адразу збілі б...

Пасля красамоўнай паўзы мая субяседніца дадала:

— Яны ўжо падрыхтаваныя, каб праз Палессе ўвайсці на Украіну. За мяжой, ля Драгічына стаіць авіябаза з чатырма тысячамі самалётаў. Толькі чакаць, калі...

Згодна з народнай мудрасцю, непажаданыя словы не прагучалі ўголас. Хоць гэта былі звычайныя спекуляцыі, яны насцярожвалі і бянтэжылі. У асобе агрэсараў мая субяседніца пабачыла нацкаваных крамлёўскай прапагандай беларусаў.

— Ужо яны забіраюць нам Астрожскага, забіраюць Касцюшку, — гаварыла з пачуццём крыўды мая субяседніца, — а паспрабуй даказаць, што гэта не так, то нас адразу *бандэрамі* абзываюць. Няма ўжо паміж украінцамі і беларусамі размовы.

* * *

Пра ахову памяці месцаў, звязаных з асобай Тадэвуша Касцюшкі, то-бок пра балючы недахоп такой памяці, даведаюся ў час пабыўкі ў Любашове. Гэта будзе сустрэча з людскай бездапаможнасцю і маніпуляцыяй гісторыяй памежжа.

Раіса Крат была адзінай на маёй дарозе асобай, якая прыкмеціла беларуска-ўкраінскую варажнечу. Канфлікт ад гадоў, з большым ці меншым імпэтам, успыхвае на сацыяльных сайтах. Там ідзе пра адно: каму прыналежыць Палессе? Жыхары прыпрыпяцкіх сёлаў не праяўлялі цікавасці такім пытаннем, сваю нацыянальную прыналежнасць звычайна атаясамлялі з адміністрацыйнымі межамі, ды неабавязкова дзяржаўнымі. Здзіўляла мяне, калі ў Грэчніках, гаварылі пра сябе „Валынь" а аднапляменцаў з суседняй вобласці, з якімі часта спалучала іх сваяцтва, называлі „Рывіншчына". Гэтая Рывіншчына здавалася тут далёкай і экзатычнай як Балгарыя. Раіса Крат, як пераважная большасць прыпрыпяцкіх палешукоў, глядзела скептычна на ваенныя падзеі на Усходзе Украіны:

— Няхай бы забралі сабе ўжо гэты Данбас, — не хавала яна абурэння, — хопіць нашай крыві, хопіць ахвяр.

Яе сэрца па-мацярынску балела за сваіх былых вучняў. З самога Невіра, у выніку мабілізацыі, пяць чалавек трапіла на фронт. Ці вернуцца дамоў жывымі, нескалечанымі? У школе адведзены ім спецыяльны стэнд азагалоўлены „Сіла духу". Дарэчы, духовы воблік мясціны таксама здаўся падвойным і неадназначным.

* * *

Спачатку ўразіла мяне інфармацыя пра будаўнічую катастрофу, якая павісла над новаўзведзенай царквой. Будоўля патрабуе грунтоўнай перабудовы, інакш яна ў кожны момант можа разваліцца. Частка вяскоўцаў пабачыла ў гэтым знак з неба. Прывід катастрофы прамовіў як пакаранне за здраду.

Будоўлю пачалі ўзводзіць у пачатку дзевяностых гадоў з дазволу УПЦ Кіеўскага патрыярхату. Сяляне абавязаліся пабудаваць царкву за свой кошт. Пабудову ўзводзілі без плана, інтуітыўна, з даступных, часам выпадковых матэрыялаў. Дзесьці па дарозе згубілася раўнавага канструкцыі. Але тады ніхто яшчэ не думаў пра архітэктурныя законы, уся ўвага і клопат былі адведзены абсталяванню сярэдзіны. Хутка аказалася, што кошты перарастаюць магчымасці сяла. Ні з боку дзяржавы, ні патрыярхату не было матэрыяльнай падтрымкі. Яшчэ больш крыві сапсаваў назначаны ў Кіеве бацюшка. Калі людзі прывозілі яму на падворак клёцы, дык ён трыццаць адсоткаў прызначаў на царкву, а семдзесят на пабудову хаты для сына. Падобныя махінацыі не мелі канца. Народ падняў бунт. Нават патрыятычна настроеныя вернікі перасталі бараніць святара. Тады дапаможную далонь падала УПЦ Маскоўскага патрыярхату. Разам з датацыяй у Невір адкамандзіравалі новага бацюшку, красамоўнага пастыра і дбайнага гаспадара. Апошнюю *благадаць*, як свята верацЬ у сяле, аформіў іх славуты ўраджэнец. Якраз з Невіра родам уладыка Уладзімір, епіскап Ковельскі і Валынскі. Свой аўтограф, прыаздоблены крыжамі, пакінуў у школьнай хроніцы.



Моложэй — так у Невіры называюць атаву



Прыпяць у Невіры



* * *

Апошняя вестка прамовіла як кропка над „і". У Невіры, які прытыкае да самой ракі, існаванне працягвалася дзякуючы архаічным рытуалам, персаніфікацыі прыроды. Людзі ведалі як з дапамогай сілы духу абласкавіць паводку, прадбачыць яе сілу і мінімізаваць страты. Стыхію лічылі неабходнай для жыцця, вясновыя разлівы гарантавалі ўраджай і адраджэнне прыроды. У час маёй вандроўкі ўсе наракалі на засуху, якая ўжо другі год запар панавала на Палессі. Найстарэйшыя людзі з бліскам у вачах успаміналі колішні, неўтаймаваны воблік ракі. Прыпяць плыла адначасова ў два-тры рэчышчы, калясіла меандрамі, прымала прытокі і безліч ручайкоў. У час разліваў займала ніжнія часткі двароў, улівалася ў свінарнікі і кароўнікі, падплывала пад парогі. Людзі заўсёды ведалі як ратавацца і апярэдзіць стыхію. Авечак, свіней, коней, кароў ужо заранёў пераганялі на сухія груды ды ўзгоркі. Але не заўсёды паводка прыходзіла вялікай. Тады буйны дабытак пакідалі ў хляве, жывёла стаяла ў вадзе па калені. Найбольш закалоту рабілі куры, яны ўзляталі на дрэвы, саламяныя дахі і сакаталі, парушаючы набрынялы спакой.

Пасля трох дзён вада заўсёды саступала.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960